

«Белавежа» у Гайнаўцы →3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714



Як peралічыць багацце →5

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 44 (3260) Год LXIII

Беласток, 4 лістапада 2018 г.

Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# Уладзіслаў Петрук:

## 45 гадоў з пяром, іголкай, рысікам і алоўкам

Багаты архіў графікі Уладзіслава Петрука, выкананай тушшу і пяром, з'яўляецца адной з найбуйнейшых калекцый мастацкай дакументацыі архітэктуры і прыроды Падляшша. Шмат аб'ектаў, якія захаваў на сваіх малюнках, ужо не існуе. Захапляючыся знікаючым краявідам драўлянай архітэктуры, дойлідствам вёсак і мястэчак, прыродаю рэгіёна, Уладзіслаў Петрук паказвае мінулае, сучаснае, дух шматкультурнасці — касцёлы, цэрквы, сінагогі і мячэці — Падляшша. Характэрная рыса — дэталь. Добрая кампазіцыя, выразнасць першага і смелае развіццё далейшых планаў, а таксама небывалае ўменне прадстаўляць розныя матэрыялы пры дапамозе сціплай прылады — пяра. Так пішуць пра яго крытыкі і захопленыя гледачы. Сотні малюнкаў у часопісах, дзясяткі праектаў вокладак і некалькі багатых альбомаў з карцінамі. Крытыкі адзначаюць, што гэта феномен не толькі ў краёвым маштабе. З захаплення драўлянай архітэктурай, архітэктурай вёскі і мястэчак, роднай прыродай, яго графікі паказваюць мінулае, цяперашні час, яго прыгажосць і дух полікультурнасці Падляшша.

Адзін з найбольш вядомых падляшскіх мастакоў Уладзіслаў Петрук, у кампаніі сяброў, сям'і, настаўнікаў адзначыў саракапяцігоддзе творчасці ў вялікай выставачнай зале ў «Падляшскай ксёнжніцы» па вуліцы Складоўскай, 14 а ў Беластоку, з віншаваннямі таксама маршалкаў Падляшскага сейміка.

Уладзіслаў Петрук нарадзіўся ў 1952 годзе ў Наройках непадалёк Драгічына, зараз жыве і працуе ў Каралёвым Мосце, вёсцы на ўскрайку Кнышынскай пушчы, у Гарадоцкай гміне. Плён яго руплівых і творчых гадоў — тысячы рысункаў. Выдаў паўсотні папак — ад «1200-годдзя горада Лаймена», «Цехановец», «Сямятычы», «Драгічынскага дыяцэзія», «Беласток і ваколіцы», «Беласток даўней і сёння», «Цэрквы Беластока», «Беласток», «Медыцынская акадэмія — 50-годдзе», «Кермусы каля Тыкоціна», «Сувалкі», «Супрасль», «Аўгустаў», «Ломжа», «Каралеўскія дубы — Белавежа», «Мельнік і ваколіцы», «Харошча ў рысунках», «Палац Браніцкіх у Беластоку», «Універсітэт у Беластоку». Выдаў альбом «Старое ёсць прыгожае», дзе змешчаны каля 250 рысункаў архітэктуры Беласточчыны. Выдаў таксама каля 200 рысункаў XIX-вечнай архітэктуры Чыкага. Цяпер займаецца амаль выключна рысаваннем, праектуе графічныя знакі, вокладкі кніг, плакаты, ілюстрацыі да кніг — асаблівa любіць ілюстраваць паэзію. Называюць яго адным з найбольшых графікаў-дакументатараў Падляшскай зямлі, асабліва ўражлівым на беластоцкі краявід, з якім адчувае інтымную сувязь. Багаты архіў ягоных графік, выкананых тушшу і пяром, з'яўляецца адным з найбольшых збораў мастацкай дакументацыі архітэктуры і краявіду Падляшша. А „Architektura i Przyroda Województwa Podlaskiego” — карона ягонай творчай працы звязанай з Падляшшам — атрымаў за яе ўзнагароду «Залатага Грыфа» 2010 года.

Прозвішча Уладзіслава Петрука кожнаму беларусу з чымсьці асацыюецца. Паявілася яно на спісках Беларускага выбарчага камітэта, бачылі яго сімпатычны твар, яшчэ чарнявага, на нашых лістоўках, яшчэ хтосьці чуў яго голас у сугуччы іншых басоў царкоўнага хору, памятаюцца ягоныя рысункі на старонках „Нівы”... А цяпер ён „грамадзянін Гарадоцкай гміны”, як з гонарам адзначае, і ўсхваляе яе ў сваіх малюнках. Сорак пяць гадоў чорнай рыскай уводзіць у нашу памяць тутэйшыя месцы, па якіх ужо нават няма і следу. Сам ён пасівеў ужо, а чорная графічная рыса назаўжды застанецца на ягоных працах, у альбомах, якія хоча кожны мець дома як дарагую памятку.





— Найбольш чула ўспамінаю працу ў «Ніве», перш за ўсё дзякуючы якой я зацікавіўся тэмамі, і пачаў сваю прыгоду з рысункам, увекавечваючым былое. А заўсёды важу на выставы мамін партрэт. Запрапанаваў я быў яе нарысаваць, а яна кажа: «Ты што, я старая, брыдкая. Ты малюй маладых, прыгожых. Ты што ўсё тое старое малюеш!» — Я ёй адказаў: «Мама, калісь толькі вялікія паны ды пані заказвалі свае партрэты. А ты ж шляхцянка! А твая кожная маршчынка — адна прыгажосць!».У «Ніве» я працаваў мастацкім рэдактарам, меў дзве рубрыкі: «Свойскія малюнкі» і «Родныя краявіды». І прафесійнае маляванне пачалося якраз у час працы ў рэдакцыі. Кожны тыдзень трэба было зрабіць адзін малюнак архітэктуры. Калі іх сабралася 250, у 1991 годзе выдаў першы альбом. З гэтага пачалося маё праваслаўнае маляванне, але не толькі цэрквы прыцягвалі маю ўвагу, а розныя драўляныя пабудовы, усё, што захавалася. Адкуль узялася ў мяне тая прага рысаваць? З пачуцця мінаючага часу. Я бачыў, як прападае старая архітэктура. Хваляввала мяне, што заязджаю ў нейкае месца, а тут папрападалі аб'екты з майго дзяцінства, юнацтва. Я падумаў: нарысую гэта, хоць яно так застанецца. Так яно і пачалося. Мушу прызнацца з задавальненнем, што я зрабіў кавалак добрай работы! У час лічбавай фатаграфіі рысую пяром. Знайшоў тут нішу і я шчаслівы. Над адным рысункам працую тры-чатыры дні. А пяро ўзялося ад таго, што не патрабуе шмат месца, што асабліва турбавала мяне калі я жыў у блоку. Цяпер у мяне дома ў вёсцы ёсць аграмадныя прэсы, на якіх магу адціскаць лінагравюры і іншыя графічныя працы.

Уладзіслаў Петрук мастацкую адукацыю пачаў у Мастацкім ліцэі ў Супраслі, заканчваючы яго са спецыялізацыяй у галіне мастацкага ткацтва. Быў стыпендыятам Міністэрства культуры і мастацтваў: з 1973 па 1979 год вучыўся ў Вышэйшай школе графічнага дызайну і графікі кнігі ў Лейпцыгу і ў Інстытуце Гердэра ў Лейпцыгу. Атрымаў дыплом у майстэрні праф. Ірмгард Горлбек-Каплер па спецыяльнасці кніжная графіка. У той час у творчасці выявіў асаблівую цікавасць да плаката (здабыў шматлікія ўзнагароды і прызы). Ужо падчас вучобы ягоныя графікі трапілі на выставы. Пасля заканчэння школы ён вярнуўся на радзіму...

— Намаляваў я царкву на Святой Гары Грабарцы неўзабаве да яе спалення. Часта цяпер паяўляюся ў час паломніцтваў, паказваю свае працы. Маляваў я Драгічын XVI стагоддзя; тады ў горадзе было дванаццаць цэркваў і тры манастыры і толькі два касцёлы, папрацаваў таксама ў дзвюх праваслаўных епархіях: Беластоцка-Гданьскай і Варшаўска-Бельскай. Вынік — 380 выяў. Гэта храмы і капліцы, часта невялікія, але для культуры вельмі важныя.

...Быў графічным рэдактарам „Беластоцкага культурнага інфарматара”, намеснікам кіраўніка выдавецкага аддзела Ваяводскага дома культуры ў Беластоку, захавальнікам Рэгіянальнага музея ў Сямятычах, кіраўніком выдавецкага аддзела Філіяла Варшаўскага ўніверсітэта ў Беластоку, кіраўніком Выдавецтва Усходнееўрапейскага інстытута гаспадаркі ў Беластоку. Цяпер сам займаецца выдавецкай дзейнасцю. Ягоныя працы выстаўляліся ў Нямеччыне, Новай Зеландыі, Беларусі, Расіі, Украіне, ЗША. Зрабіў дзясяткі праектаў вокладак і тыпаграфскіх складаў кніг. Праектаваў ілюстрацыі да томікаў паэзіі і прозы, плакаты, карыкатуры, экслібрысы і лагатыпы. На сённяшні дзень мае сваё выдавецтва, дзе выдае тэматычныя зборы сваіх прац. Апрача родных краявідаў працуе таксама над іншымі тэмамі: на заказ горада Лаймен, непадалёк ад Гейдельберга выканаў 250 графік, партрэціраваў Росбах (каля Франкфурта-на-Майне), стварыў цыклы малюнкаў Гданьска і Вроцлава, а таксама серыю прац, якія прадстаўляюць сучасную архітэктуру і архітэктуру XVIII-XIX стст. Чыкага (падчас гадавога побыту ў ЗША)....

На юбілейнай выставе можна паглядзець графіку, партрэты, алейныя карціны, таксама з ліцэйскага часу, сабраныя шматлікія выданні, пры якіх працаваў мастак. Працы перш за ўсё выкананы тушшу і пяром, з выявамі месцаў, распаложаных на Гайнаўшчыне, Беласточчыне, партрэты блізкіх мастаку асоб.

Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ





# Пра нас і Гандурас

Калі вы думаеце, што паміж Рэспублікай Беларусь і далёкім цэнтральнаамерыканскім Гандурасам на іншым канцы планеты няма падобнага, то вы моцна памыляецеся. Ёсць адна значная рэч, якая дазваляе рабіць хоць і супярэчлівыя, але выразныя паралелі.

З Гандураса мнагатысячнай калонай у бок Злучаных Штатаў Амерыкі рухаецца вялізны натоўп мігрантаў. Яны ідуць з цэнтральнай часткі амерыканскага кантынента магутнай хваляй праз дзве тысячы кіламетраў, праз Гватэмалу і Мексіку і маюць цвёрды намер дасягнуць тэрыторыю ЗША. Ліберальныя медыі называюць гэтых людзей чамусьці бежанцамі. Але зусім незразумела, чаму ўся гэтая агромністая арда не выходзіць на вуліцы сваёй сталіцы Тэгусігальпы і не патрабуе ў свайго ўрада змены парадкаў. Незразумела, чаму людзі не хочуць памяняць жыццё ў сваёй краіне да лепшага, уладкаваць эканоміку і працаваць на свой дабрабыт дома. У Гандурасе няма зараз ні вайны, ні жахлівых прыродных катаклізмаў. Ніхто не захоплівае гэтую краіну і не замахваецца на яе тэрытарыяльную цэласнасць. Але тысячы гэтых, пераважна маладых і здаровых людзей, якія хочуць быць дармаедамі ў багатай краіне, пакідаюць сваю радзіму і пруцца ў ЗША. Больш таго, гэтыя людзі настроены надзвычай агрэсіўна ў дачыненні да багатай і развітай краіны, куды яны так апантана імкнуцца — то сцягі ЗША паляць, то вінавацяць ва ўсім урад гэтай краіны. А англійскую мову і вучыць не збіраюцца. Пра якую тут інтэграцыю новых фальшывых бежанцаў можна казаць!? Але ж знаходзяцца сілы і ў самой Амерыцы, якія напярэдадні выбараў інспіруюць такую масавую плынь новых мігрантаў.

Беларусы — нібыта зусім іншы народ. Нашы людзі натоўпам могуць прыйсці хіба што на адкрыццё новага супермаркета, дзе будзе выкінутае нешта задарма, як кажуць „на халяву". А вось за мяжу насельнікі Беларусі едуць таксама вельмі масава, але ж паасобку. Беларусы ўсё ж — індывідуалы. Лік ідзе на тысячы, дзмаецца, нават на дзясяткі тысяч чалавек. У Беларусі няма зараз ні вайны, ні жахлівых прыродных катаклізмаў. Праўда, цэлы час чорнай хмарай нависае пагроза расейскай акупацыі.

Дакладнай статыстыкай ніхто не валодае, але ўсе ведаюць, што выезд жыхароў Беларусі за мяжу, асабліва апошнімі гадамі, набыў вельмі маштабны характар. Канада, ЗША, Вялікабрытанія, Германія, Францыя, Аўстралія, Чэхія, Аўстрыя, Швецыя — асноўныя краіны эміграцыі для беларусаў. Ну і канешне ж суседняя Польшча. У выніку эканамічнага крызісу ў Расеі вектар гастарбайтарскай сілы ўпэўнена схіліўся на захад. Зноў жа, цяжка прывесці дакладную статыстыку, але колькасць беларусаў, якія выязджаюць на заробкі ў Польшчу, няўхільна павялічваецца. Меркаваць упэўнена можам тут па гарадзенскім рэгіёне. Многія, знайшоўшы сталую працу за мяжой, выязджаюць на пастаяннае месца жыхарства. Асабліва шмат выязджае моладзь на навучанне. Хлопцы, адначасна з атрыманнем вышэйшай адукацыі, уцякаюць ад савецкай арміі (а войска Рэспублікі Беларусь іначай як расейска-савецкім і не назавеш) і ўжо нават з-за гэтага не вяртаюцца. Дзяўчаты, адвучыўшыся ў замежных установах, як правіла выходзяць замуж. Ніхто з гэтай моладзі назад ужо не вяртаецца. Бацькі і дзяды, якія сядзелі як мышы па сваіх кватэрах, апошнія дваццаць гадоў і пальцам не пашавялілі, каб паспрабаваць штосьці змяніць у сваёй краіне, зараз усімі сіламі імкнуцца выпхнуць сваіх дзяцей і ўнукаў на захад, далей з гэтай „чорнай дзіркі" Еўропы. Нават тыя, хто змагаўся ўсімі сіламі і спосабамі, ужо апусцілі рукі і не вераць, што ў гэтай дзяржаве можна штосьці-небудзь перамяніць.

Беларусы, якія выязджаюць у іншыя краіны, хутка адаптуюцца ў новым асяроддзі, не ствараюць праблем уладам, арганічна інтэгруюцца ў грамадства. Яны ўмеюць і любяць працаваць, вывучваюць мовы, робяць паспяховыя кар'еры, ствараюць сем'і, зарабляюць грошы. Беларусы няздольныя толькі нешта змяніць у сваёй дзяржаве і таму назаўсёды пакідаюць гэтыя край...

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# Паводле селядца



Селядзец да селядца не мае нічога, але ў туманнай хмары, якой з'яўляецца касяк селядцоў, цяжка прабіцца да найлепшых жыраванняў. Не кожнаму трапіцца тлусты планктон палітычнай карупцыі, тыя і іншыя 500-плюс. Большасці прыходзіцца здавальвацца менш мясістай ежай абяцанак — таннымі кватэрамі для маладых, працай для ўсіх, бясплатнымі лекамі для пажылых, бясплатнай адукацыяй, саманацыянальным гонарам, Вялікай Польшчай, *przedmurzem i zamurzem* і для паганства, і для ажыўленага ў Расіі нова-царскага самадзяржаўя, і для свецкага, гендарнага і распуснага, гнілога Захаду. І для ўсёй «сволачы», якая ні з польскага пана, ні хама ўзяліся невядома адкуль і калі. Іншая справа, што цяпер пана днём з агнём шукаць.

Так, гэта няпроста! Часам даводзіцца моцна навіляцца хвастом, каб выжыць... Можа так да наступнага дня выплаты, але да наступных выбараў — напэўна. Таму што тады яны кідаюць без шкадавання абяцаннямі корму. Толькі ты еж і пляскай ад шчасця! Братэрства тунцоў і селядцоў затым расцвітае. Але да часу. Тунец мае свой апетыт. Акрамя таго, касяк з'яўляецца ўсёабдымным органам. Урэжаш з яго трохі, а ён увесь у крыві. Урэжаш больш — проста хлюстае крывёй. Не пераробіш яго на асобныя тушкі. Ён цэласць і ўвесь будзе сыходзіць крывёй. Ну, хіба што ўвесь касяк парэзаць у кольцы і ўціснуць у банку, адначасова. Як гэта зрабіў Гітлер, як спрабаваў Сталін. Аб чым марыць не адзін палітычны тунец. Толькі што немцы гэта не селядцы. Гэта тоўстыя і таму лянівыя трэскі. Расейцы — камбала. Многа ў іх касцей, а мяса мала. Але ж вельмі яны жывучыя! Нялёгка быць польскім селядцом. Але не так проста ім з тунцамі, якія заўжды палююць на селядцоў. Селядцы гэта выбаршчыкі. Апошнія — палітычныя сабе-рыбы. Нахапацца па горла галасоў выбарцаў — асноўная стратэгія тунцоў. Што яны робяць, калі нажаруцца перамогі на выбарах? Пераварваюць, пераварваюць, з вока не спускаюць касяк, таму што яго капрызы непрадказальныя, непрадказальныя электаральныя сімпатыі. Касяк рухаецца па інерцыі ды паводле нечытэльных азімутаў туды і сюды, лявей, правей — непазначана, непрадказальна. Як яму дагадзіць?! Як выяўляецца інстынкт статку? Калі так, што яго ініцыюе? Ці кіруюць ім перыферычныя расчараваныя асобы, высылаючы імпульс для змены? Можа быць, ён ствараецца цэласна, адразу і ўва ўсіх? Існуе тэорыя — абвяшчаюць яе падагрычныя тунцы — што азімутам для плывучых тунцоў з'яўляюцца рухі іншых, што плывуць побач іх — над імі, перад імі і за імі — селядцоў. Кожны дзейнічае, як і ўсе астатнія, але гэта не значыць, што ўсе, як кожны. У касяку ўсе супраць усіх, і ўсе супраць кожнага. І вось чаму ўсе як кожны, а кожны — як усе астатнія. Але не ўсе і не кожны. Сапраўды, цяжка гэта зразумець. Трэба сказаць, што ў сваёй масе, інстынктыўнай гамагеннасці, рух касяка — надзвычай гарманічны. Вельмі прыгожы! Але што значыць «прыгажосць», калі касяк адскоквае на від тунца, які хоць загапляецца гарманічнасцю яго руху, але ж рыхтуецца да ненаеднага нападу? Ва ўсякім разе, гэта не заўсёды так... прыгожа. Касяком часам сутрасаюць асаблівыя турбулентнасці. Можа быць, гэта таму, што дзесьці ў цэнтры недаацэнены селядзец робіцца шалёным і раптам зрываецца наўскасяк і скрозь праз селядцовую масу. Яго бліжэйшыя суседзі, ведзены статкавым інстынктам, плывуць за ім, разарваўшы існуючы парадак. Збытаныя селядцы ў сваёй масе дзеляцца на невялікія групы ці нават цалкам рассейваюцца. Але неўзабаве часткі з іх збіраюцца ў грамадкі. А тыя, у сваю чаргу, злучаюцца адна з адной, і, нарэшце, збіваюцца разам. Але часам справа даходзіць да дзіўных рэчаў — касяк разбіваецца на два, часам на тры некалькі меншых касякоў. Няма ніякага спосабу, каб прымусіць іх заставацца ў адным месцы жыравання. Кожны з іх, каб захаваць сваё існаванне, павінен мець пачуццё ўнікальнасці. Каб захаваць яго, неабходна адкрытая прастора, якую называюць часам памылкова свабодай. Магчыма, для некаторых селядцоў гэта тое самае. Для большасці, аднак, гэта толькі ментальная канцэпцыя, абстракт, нічога што можна з'есці або выплюнуць, калі нясмачнае. Селядзец і свабода гэта дзве супярэчлівыя якасці. Як жыць сярод іх стараму, салонаму селядцу?

Міраслаў ГРЫКА



Сваімі вачыма

# Выбарчы марафон (4)

Ну і першыя выбары ў марафоне галасавання за намі. Яшчэ толькі другі тур, у тым ліку ў Бельску-Падляшскім і ўсё стане зразумелым наконт пераможцаў. Але адно з упэўненасцю трэба сказаць, што выйгранымі аказаліся выбаршчыкі. Выбарчая яўка на ўзроўні пяцідзесяці чатырох працэнтаў паказала, што людзі змабілізаваліся і прагаласавалі часта не толькі за сваімі кандыдатамі, але супраць палітычнай канкурэнцыі. Самаўрадавыя выбары 2018 года ў многім нагадвалі рэферэндум паміж дзейснай уладай і апазіцыяй. Такі падыход быў на руку адным і другім, але вельмі знішчальным для меншых партый і грамадзянскіх ініцыятыў. Каток вялікай палітыкі, на жаль, раз'ехаў такія выбарчыя камітэты. І здаецца на доўгія гады адбярэ ахвоту многім людзям балатавацца з незалежных спіскаў. Затое палітычныя партыі стануць месцам яшчэ большай унутрыпляменнай грызні і няспынных войнаў. Калі параўнаць сёлетнія выбары з выбарамі 2014 года, то аж надта выразна кідаецца ў вочы значна меншы працэнт адданых няважных галасоў. Значыць «славутая кніжачка» і быццам непісьменныя выбаршчыкі прамінулі як нейкі прывід. Але з тым зніклым прывідам знікла таксама і выбарчая перамога Польскай сялянскай партыі, якая ў маштабе краіны страціла найбольш радных у ваяводскіх сейміках. Прайгралі яны нават у Свентакшыскім і Люблінскім ваяводствах у карысць Права і справядлівасці. Такое адбылося і ў нашым ваяводстве, дзе ПіС атрымаў 41,64% галасоў, Грамадзянская кааліцыя 24,14% і ПСЛ 15,66%. Пераклалася гэта і на мандаты, даючы ПіС аж 16 месцаў, што абазначае самастойнае кіраванне ў нашым ваяводстве, ГК — 9, ПСЛ — 5. У параўнанні з мінулымі выбарамі сяляне згубілі ажно чатырох дэпутатаў. Напэўна адсутнасць на іхніх спісках вядомых у грамадстве Мечыслава Башко з Сакольшчыны ці Валянціна Карыцкага з Бельшчыны была адным з фактараў паразы тут на месцы. Увайшоў аднак у сеймік з гэтага спіска Мікола Яноўскі з 5888 галасамі. У сеймiку будзе яшчэ двух беларусаў са спіска Грамадзянскай кааліцыі, а менавіта Славамір Назарук з Беластока (атрымаў 9 641 голас) і Ігар Лукашук — дырэктар Гайнаўскага беларускага ліцэя (7184). Такім чынам трэба спадзявацца, што ў працах сейміка Падляшскага ваяводства беларускае пытанне не будзе замоўчванае. Дзеля выбарчай статыстыкі прыгадаем, што найбольш галасоў атрымалі ў нашым ваяводстве Марэк Ольбрысь (ПіС — 15 128 галасоў), Мацей Жыўна (ГК — 15 080) і Станіслаў Дэрэгайла (ПіС — 14 199). Вынік галасавання ў нашым ваяводстве абазначае адно, што пасля дзесяцігоддзя кіравання ваяводствам кааліцыяй Грамадзянскай платформы з сялянскай партыяй ПСЛ будзем сведкамі палітычнага землятрусу ва ўсіх структурах падпарадкаваных Маршалкоўскай управе. Не абыдзецца і без кадравых змен і ў саміх дэпартаментах. З нашага пункту гледжання самым важным застаецца пытанне кіравання Анатолем Вапам Дэпартаментам культуры МУ з шырока разбудаванымі конкурсамі для нацыянальных меншасцей. Ці гадамі адладжаная палітыка падтрымкі застанецца надалей адкрытай для нас, ці прыходзіць час завірухі і размантоўвання накопленых ідэй і дзеянняў. Тут маю на ўвазе пачатае ўрэшце супрацоўніцтва філармоніі і оперы, тэатраў, музеяў з беларускімі партнёрамі. Магчымасць для нас, беларусаў, глядзець на беластоцкіх сцэнах найлепшыя дасягненні беларускай культуры было тым, пра што гаварылася і чакалася шмат гадоў. Вядома, ніхто пэўна не будзе адкідаць трансгранічнага супрацоўніцтва за еўрасаюзныя грошы, але якія справы, тэмы і рэгіёны ваяводства будуць мець асаблівую падтрымку, даведаемся неўзабаве.

Права і справядлівасць, кіруючы самастойна, бярэ на сябе на пяць гадоў вялікую адказнасць за шанц развіцця нашага Падляшскага ваяводства. На колькі гэтая самаўрадавая ўлада будзе супрацоўнічаць са сваім урадам, пакажа час. У выбарчай кампаніі шмат пра гэта гаварылася, таксама пра спакой, бяспеку і стабільнасць. Ці нацыянальныя і рэлігійныя меншасці нашага ваяводства не будуць спіхнуты на абочыну? Гэтыя і падобныя пытанні задаюцца зараз многімі жыхарамі Падляшскага ваяводства.

Яўген ВАПА

# Пра літаб'яднанне «Белавежа» ў Гайнаўскім белмузеі

**У Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы 13 кастрычніка бібліятэкарка Віялета Андрасюк арганізавала сустрэчу са старшынёй Беларускага літаратурнага аб'яднання «Белавежа» паэтам Янам Чыквіным і паэтэсай Галінай Твархановіч. Была яна прымеркаваная да 60-годдзя літаб'яднання. Спатканне ў зале з этнаграфічнай выставай «Беларускі двор» вёў гайнаўскі пісьменнік і журналіст Радыё Рацыя Міхась Андрасюк.**



■ Сустрэчу са старшынёй Беларускага літаратурнага аб'яднання «Белавежа» паэтам Янам Чыквіным і паэтэсай Галінай Твархановіч вёў гайнаўскі пісьменнік і журналіст Радыё Рацыя Міхась Андрасюк (першы злева)

Сустрэчу адкрыла музейная бібліятэкарка Віялета Андрасюк, якая наладзіла яе ў рамках пастаянна рэалізаванага ў Гайнаўскім белмузеі праекта «Кірыліцай пісанае». Яшчэ ў пачатку спаткання Міхась Андрасюк успомніў выказванне светлай памяці пісьменніка Сакрата Яновіча, што «польская літаратура — гэта літаратура польская і беларуская».

— Ні ўкраінцам, ні літоўцам, ні ніводнай іншай нацыянальнай меншасці ў Польшчы, за выключэннем беларусаў, не ўдалося стварыць сваёй літаратуры, хаця выдаваліся кніжкі паэзіі і прозы на мовах розных нацыянальнасцей. Нават ніводнай нацыянальнай меншасці на захадзе Еўропы не ўдалося стварыць сваёй літаратуры ў такім маштабе, як была створана беларусамі ў Польшчы беларуская літаратура. Мы, беларусы ў Польшчы, выдалі ажно пад трыста кніжак на роднай мове. Першай літаратурнай кніжкай, выдадзенай пасля вайны на Беласточчыне, быў зборнік вершаў «Рунь», надрукаваны не на польскай, а менавіта на беларускай мове, — удакладніў паэт Ян Чыквін.

Першым старшынёй Беларускага літаратурнага аб'яднання «Белавежа» быў Георгій Валкавыцкі, родам з Белавежы, які перш за ўсё стварыў «Ніву» і кіраваў яе рэдакцыйным калектывам. Георгій Валкавыцкі сабраў таленавітых беларусаў, якіх заахвочваў пісаць на роднай мове. Іх творы друкаваліся на старонках «Нівы». Першай кніжкай заснаванага ў 1958 годзе літаб'яднання быў згаданы паэтычны зборнік «Рунь» з вершамі сямнаццаці беларускіх аўтараў. Падбіраў вершы і рэдагаваў зборнік сам Георгій Валкавыцкі. Аб ім, заснавальніку «Нівы», саарганізатары Беларускага грамадска-культурнага таварыства і стваральніку Беларускага літаратурнага аб'яднання «Белавежа» гаварылі вядучы і госці спаткання ў белмузеі.

— Спачатку ў 1956 годзе стварылася наша беларуская газета «Ніва» і было гэта вельмі важнай і радаснай падзеяй. Яе галоўны рэдактар Георгій Валкавыцкі адразу запрапанаваў чытачам пісаць па-беларуску і дасылаць літаратурныя спробы ў «Ніву». Калі ў 1958 годзе заснoўвалася літаратурнае аб'яднанне, таксама адчувалася, што ствараецца нешта важнае. Мы, тады яшчэ маладыя асобы, маглі пісаць па-беларуску са спадзяваннем, што напісанае будзе надрукавана ў нашай беларускай газеце. Мы з нецярплівасцю чакалі, калі нашы творы паявяцца на старонках «Нівы». Георгій Валкавыцкі рашыў яшчэ выплачваць нам ганарары і гэта было для нас вялікім вылучэннем і гонарам. Нас кожны тыдзень запрашалі ў «Ніву» і выплачвалі грошы, за якія мы маглі нешта купіць. Я раней не думаў, што будзе такая магчымасць, што мае вершы будуць друкавацца ў «Ніве» і людзі будуць маглі іх прачытаць, — стаў распавядаць старшыня літаб'яднання «Белавежа» Ян Чыквін. — Бог паслаў беларусам Георгія Валкавыцкага, які нам усё гэта арганізаваў. Адстойваў, каб творы маладых асоб друкаваліся на беларускай мове. Георгій Валкавыцкі сачыў за кожным маладым пісьменнікам і яго ростам. Закончыў ён Літаратурны інстытут у Маскве і, арганізуючы «Ніву», мусіў жа пераключыцца з расійскай на беларускую літаратурную мову, на якой выдавалася «Ніва», што зрабіў хутка. Аднак сам Георгій Валкавыцкі як пісьменнік поўнасцю не раскрыўся. Моцна быў заангажаваны дапамагаць іншым і рабіў гэта за кошт сваёй літаратурнай творчасці. Калі разглядаў творчасць іншых, рабіў гэта далікатна, каб захаваць характар і асаблівасці кожнага паэта, ці празаіка. Георгій Валкавыцкі быў чалавекам, які так многа зрабіў свайму народу.

Падчас сустрэчы Галіна Тварановіч запрэзентавала кніжку Георгія Валкавыцкага «Віры», у якой можна прачытаць пра яго ангажаванасць у беларускія справы.

— У апошнім перыядзе жыцця мы наведвалі з мужам Янам Георгія Валкавыцкага ў яго прыватным доме ў Белавежы, збудаваным сярод дубоў. Там размаўлялі мы на розныя тэмы і можна сказаць, што ён надалей жыў тым, што рабіў, кіруючы працай у «Ніве». Успамінаў гэты перыяд, які апісаў дакладна ў кніжцы «Віры», якую мы сёння сюды прывезлі. У Георгія Валкавыцкага быў асаблівы падыход да людзей і таму патрапіў заахвоціць маладых асоб пісаць па-беларуску. Многія з іх пазней сталі сузаснавальнікамі літаб'яднання «Белавежа». Я раней, займаючыся навуковай працай у Мінску, не ведала твораў «белавежцаў» і вельмі мала ведала пра само літаб'яднанне. Калі я пазнаёмілася з творамі пісьменнікаў «Белавежы», зразумела, як вялікая літаратурная творчасць тут паўставала, — сказала Галіна Тварановіч і пахваліла творчасць Міхася Андрасюка, якога за падборку словазлучэнняў у яго празаічных творах таксама назвала паэтам. Віялета Андрасюк паінфармавала, што калі выйдзе з друку новая кніжка Міхася Андрасюка, сарганізуе яе прэзентацыю ў Гайнаўскім белмузеі.

— Ян Чыквін — гэта наш выдатны беларускі паэт, які нарадзіўся і дзяцінства правёў у Дубічах-Царкоўных. Пасля яго бацька знайшоў працу ў Бельску-Падляшскім, куды пераехаў разам з сям'ёй і малады Янкам. Як васямнаццацігадовы хлопец прымаў ён удзел у заснавальніцкім сходзе літаратурнага аб'яднання «Белавежа» і ўключыўся ў яго дзейнасць, — расказаў пра госця спаткання пісьменнік Міхась Андрасюк.

У час сустрэчы Міхась Андрасюк запрэзентаваў сабраным дзве кніжкі Яна Чыквіна — зборнік вершаў «Іду», выдадзены ў 1969 годзе і апошнюю кніжку прозы «Трохкрылыя птушкі», выдадзеную да 60-годдзя Беларускага літаратурнага аб'яднання «Белавежа». Міхась Андрасюк прачытаў адзін з вершаў Яна Чыквіна са зборніка «Іду» і выклікаў размову з госцем спаткання аб пачатку яго творчасці. Супадае ён з перыядам заснавання літаб'яднання «Белавежа» ў 1958 годзе. Вершы Яна Чыквіна, які нарадзіўся ў 1940 годзе, былі надрукаваны ў «Ніве» ў 1957 годзе, а сам іх аўтар належыць да Беларускага літаб'яднання «Белавежа», якому старшынюе з 1989 года.

— Дзякуючы намаганням старшыні літаб'яднання «Белавежа» Яна Чыквіна літаратурнае аб'яднанне яшчэ дыхае. Да заснаванага 8 чэрвеня 1958 года Беларускага літаб'яднання «Белавежа», якое выдала многа кніжак, належала і належыць многа выдатных нашых пісьменнікаў, — гаварыў Міхась Андрасюк.

— Пра свае творчыя планы я не інфармую публічна, а калі нешта абвяшчу, лічу гэта ўжо закончаным працэсам, — заявіў Ян Чыквін, адказваючы на пытанне вядучага сустрэчу пра планы.

Міхась Андрасюк сказаў сабраным, што Галіна Тварановіч піша вершы і выдаваліся яе паэтычныя зборнікі. Сама Галіна Тварановіч заявіла, што пачала пісаць з верша з духоўным зместам і прачытала адзін са сваіх вершаў пра памерлую сяброўку. Паінфармавала, што пісаць стала позна, але заахвоўвае планы наконт творчай будучыні. Міхась Андрасюк успамінаў пра Дараганава, распалажанае ў Рэспубліцы Беларусь, у якім узрастала Галіна Тварановіч, а сама спадарыня Галіна вельмі цёпла стала распавядаць пра Бельск-Падляшскі, у якім зараз жыве.

— Спачатку пісала я дзённік. Думала, што калі пачну творчы працэс, буду пісаць прозу, а стала пісаць вершы. Іх першым слухае зараз муж Ян, а яго вершы многа мне сказалі пра мужа як чалавека, — гаварыла падчас спаткання Галіна Тварановіч. — Я — чалавек Вялікага Княства Літоўскага і яно адчуваецца ў Бельску. Гэта горад з доўгай гісторыяй, асабліва заслужаны для Вялікага Княства Літоўскага.

— Пры народнай уладзе была некалькіступенная цэнзура. І менавіта ў цэнзуры прапаў і не быў выдадзены зборнік маіх твораў, які я ў выглядзе машынапісу аддаў для праверкі. Зараз намнога прасцей здабываць сродкі на выданне кніжак, чым у мінулым. Аднак на Беласточчыне выдатна паменшала колькасць чытачоў літаратуры на беларускай мове, — сказаў старшыня Беларускага літаб'яднання «Белавежа» Ян Чыквін.

Прысутная падчас сустрэчы намесніца старасты Гайнаўскага павета Ядвіга Дамброўская адзначыла важнасць творчасці гасцей спаткання.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

## Новы стадыён

У 2016-2017 гадах за гмінныя сродкі і дафінансаванне (30%) з Міністэрства спорту і турызму коштам амаль у 480 тысяч злотаў быў перабудаваны спартыўны аб'ект у Кашалях побач Орлі, выканана была таксама агароджа коштам 42 100 зл. Аднак футбалісты ГКП (Gminny Klub Piłkarski) цягам амаль двух гадоў не разыгрывалі там матчаў і нават не трэніраваліся на сваім стадыёне — аж да нядзелі 30 верасня 2018 года. У 15:00 гадзін на футбольнае поле выйшлі футбалісты ГКП і каманды „Гусар" з Нурца-Станцыі. Сабралася каля трохсот гледачоў, а гэта многа.

Надвор'е паспрыяла. ГКП першы тайм іграла супраць сонца. І, мабыць, гэты факт спрычыніўся да таго, што ўжо ў першых хвілінах мяч два разы трапляў у арлянскую брамку. Матч закончыўся пройгрышам арлян 1:3.

Мяркую, што будучыя трэніроўкі, менавіта ўжо на сваёй пляцоўцы, прычыняцца да лепшых вынікаў каманды ГКП.

Міхал МІНЦЭВІЧ

## Самаўрадавыя выбары ў Чаромсе

У Чаромхаўскай гміне ў самаўрадавых выбарах за пасаду войта сапернічала чатыры кандыдаты, а за пятнаццаць мандатаў дэпутатаў змагалася 65 чалавек. На агульны лік 2776 жыхароў з правам выбару ўдзельнічаў 1581 выбаршчык. Ніводзін з чатырох кандыдатаў на войта не атрымаў належнай большасці галасоў, таму 4 лістапада адбудзецца другі тур выбараў. У ім будуць змагацца Ежы Шыкула (690 галасоў) і Ежы Васілюк (505 галасоў). У склад Рады гміны ўвайшлі ніжэйпералічаныя дэпутаты: з Чаромхі-Станцыі — Віктар Шатыловіч, Януш Ліпінскі, Мікалай Самасюк, Мар'юш Шыманюк, Аляксандр Пагур, Агата Шоплік, Эўгеніюш Доцнік, Тэрэса Закшэўская, Марыёля Шыманчук, Мікалай Васілюк; з вёскі Чаромха — Яўгенія Кердалевіч; са Ставішчаў і Полаўцаў — Мікалай Янчук; з Апакі-Вялікай, Вулькі-Тэрахоўскай, Пагулянкі — Алеся Хрaмінская; з Кузавы — Эўгеніюш Данілюк; з Зубач і Баброўкі — Эўгеніюш Мартынюк. Толькі тры дэпутаты былі раднымі мінулага склікання. Апошнія — навічкі. Хто пераможа ў другім туры і стане «ўладаром» Чаромхі, цяжка сказаць. Усё залежыць ад суверэна. Ад новаабранай Рады гміны і войта залежаць будзе ў бліжэйшай пяцігодцы лёс чыгуначнага пасёлка і лакальнай грамадскасці.

Уладзімір СІДАРУК

## Не будзьце абыякавымі

У Беластоку ездзіць многа пасажырскіх аўтобусаў гарадской камунікацыі. Маюць яны нумары ўсіх шматлікіх ліній. Нумары павінны быць бачны здалёк. Не ў кожнага ж пасажыра сакаліны зрок.

У навейшых аўтобусах нумар высвятляецца з тэрох бакоў. Але не ўсе маюць такую электроніку. А шкада, бо цяжка ўбачыць нумар той ці іншай лініі людзям са слабым зрокам. Аўтобусы не замаруджваюць на прыпынках і хутка зачыняюць дзверы. Невідучым і слабавідучым вельмі цяжка разабрацца, калі на прыпынак прыедуць адразу два або тры аўтобусы (здараецца гэтак даволі часта). Асабліва старэйшыя і пасажыры з заганамі зроку ў такіх выпадках бываюць моцна занепакоеныя, яны перажываюць стрэс. Аўтобус можа ім уцячы.

Вадзіцелі аўтобусаў Беластоцкай гарадской камунікацыі (БКМ) добра ведаюць і бачаць, што ездзяць і пажылыя, і слабавідучыя жыхары горада. Ведаюць і забываюць. Яны спяшаюцца. У іх жа расклад язды і яны маюць на ўвазе расклад з гадзінамі ды мінутамі, якіх ім трэба прытрымлівацца.

Дзе тады людзям са слабым зрокам шукаць паратунку? Калі нехта ветліва пытае, з якім нумарам лініі якраз прыехаў аўтобус, не адмаўляйце, хутка адкажыце ім на пытанне. Гэта ім неабходнае і важнае.

(яц)





Ігар Лукашук



Яўген Барышнікаў

Фестываль беларускай бардаўскай і аўтарскай песні „Бардаўская восень" сёлета адзначае сваё 25-годдзе. Яўген Барышнікаў і Зміцер Вайцюшкевіч пачалі ў Бельску-Падляшскім Фестываль беларускай бардаўскай і аўтарскай песні "Бардаўская восень".

Па гэтай прычыне няма конкурсу, а цягам усяго мерапрыемства прайшлі канцэрты зорак-ветэранаў фестывалю. „Гэта прыгожы, але сумны юбілей — першыя „Барды" без Міхала Анемпадыстава", — кажа старшыня Звязу ў карысць адукацыі і прамоцыі беларускай культуры „Шчыты" Ігар Лукашук: — Праўда, што на „Барды" часцей свеціць сонца, чым падае дождж. Гэта таксама заўважыў і Міхал Анемпадыстаў, які заўсёды казаў: „Калі „Бардаўская восень", то сонца". Калі не прыязджаў з Менску ў Бельск, то яго сустракала сонца.

У час другога дня бельскай часткі Фестывалю беларускай бардаўскай і аўтарскай песні „Бардаўская восень" выступіў гурт „Navi". „Барды святкуюць свой вялікі юбілей 25-годдзя, а мы сёлета на ім пяты раз — так што і ў нас невялічкі юбілей, звязаны з гэтым мерапрыемствам", — кажуць Ксенія Жук і Арцём Лук'яненка: — У гэтым годзе мы пяты раз выступаем тут. Мы заўсёды прыязджаем сюды зараджацца такой энергіяй, атмасферай чагосьці цёплага, светлага, што натхняе нас на новыя песні і далейшую творчасць. Таму зараз мы як сям'я прыязджаем сюды, як дадому. — Хочацца заўсёды вяртацца сюды, яшчэ і яшчэ. Я вельмі спадзяюся на тое, што гэта не апошні наш візіт. Можа, яшчэ наш Мацей завітае на «Бардаўскую восень».

У нядзелю адбыўся канцэрт у Камернай зале Падляшскай оперы і філармоніі. На сцэне выступілі Ilo&Friends, „У нескладовае", NAVI, Зміцер Вайцюшкевіч. Падляшская опера і філармонія з'яўлялася суарганізатарам канцэрта.

**Давід ГАЙКО**, Беларускае Радыё Рацыя


Зміцер Вайцюшкевіч



Ilo&Friends



NAVI

# Як пералічыць багацце...

**Магло б здавацца, што Беларусь адкінула Захад, вяртаючыся да найлепшых часоў, якія спазналі яе жыхары. Часта адзначаецца, што не былі гэта часы пад палякамі — Рэччу Паспалітай, першай ці другой, але часы СССР. І хаця Беларусь аддаляецца як ад Польшчы, так і Еўропы, то сёння ці ў Беларусі, ці на Падляшшы няма так малой вёскі, каб не жыў у ёй хтосьці, хто думае і жыве інакш, побач ці супраць большасці.**



Уладзімір Пятроўскі

Жыццё ў Беларусі — няпростае. Нягледзячы на дыктатуру, вёскі застаюцца каляровымі, прыязнымі месцамі. Здаецца, што час тут спыніўся шмат гадоў таму, тым больш што ў такіх вёсках найчасцей засталіся толькі людзі, якім за 80 і болей, якія нікуды не выязджаюць, а адной крыніцай ведаў з'яўляецца дзяржаўнае тэлебачанне. Прылукі — вёска аддаленая на пяць кіламетраў ад Міра — жамчужыны Беларусі, які ахвотна наведваюць турысты, такая толькі звонку. Спадар Паўлавіч выехаў аж у сам Мір, каб удалося папасці і ў Прылукі.

— Едзеце за мной. Інакш не трапіце, — сказаў.

У туманах пылу, які падымаўся на жвіроўцы, цяжка было прыкмеціць стары «Мерседэс» спадара Паўловіча. Ахвотна паставіліся мы да прапановы нашага праваднікa, каб далей паехаць на яго машыне. Вузенькая дарога сярод лесу, здавалася, вядзе нікуды. Неўзабаве з'явілася вёска: маляўнічыя драўляныя хаткі, дзе-нідзе памаляваныя на сіні колер і салідныя платы.

— Тут амаль усё раскупілі пад дачы, — патлумачыў Паўлавіч, — мясцовых засталося некалькі душ.

Вёска пачыналася ніадкуль і таксама канчалася. Калі б не рака Міранка з прарваным мосцікам, можна было далей шукаць хатак раскінутых пры звілістай дарозе.

— О, але колькі ў Міранцы калісьці рыбы было, а ракаў! — сказаў Уладзімір Пятроўскі — найстражэйшы жыхар Прылукаў.

— У Мір вазілі прадаваць? — пытаю.

— З Міра прыязджалі да нас! Цаніліся ракі — два злоты за кілаграм плацілі. За нядзелю кілаграмаў дзесяць можна было зславіць.

Уладзімір не толькі так пра ракі і рыбу. Ваўкі і мядзведзі таксама паводле яго расказаў швэндаліся па падмірскіх лясах, а людзі тых першых душылі рукамі, а другіх спосабам. І так у Прылуках жыў чалавек, які расцяў жывот мядзведзю.

— Пасля таго Мудрагель яго называлі, — цалкам сур'ёзна працягваў Уладзімір. — Дзеці былі Мудрагелі, унукі і праўнукі!

**МАТЭМАТЫКА ПА-ПОЛЬСКУ**

— З тых, якія памятаюць польскі час, толькі я застаўся, — сказаў Уладзімір і павёў нас на лавачку насупраць сваёй хаты. Седзячы на ёй, не было відаць вуліцы, толькі край вёскі. — Тут амаль палавіну вёскі саветы вывезлі. Ад хат, у якіх тыя людзі жылі, няма зараз следу, парасхрадалі, паразбуралі і лес на гэтым месцы пасадзілі. Майго бацьку таксама палохалі, што ён кулак. У яго было 15 гектараў зямлі. Але тут дажыў, — усміхнуўся, гледзячы з лаўкі ў бок, дзе калісьці жылі аднавяскоўцы, а зараз людзі тут ходзяць у грыбы.

Пасля Рыжскага мірнага дагавора Прылукі ўваходзілі ў склад II Рэчы Паспалітай. У польскім пашпарце Уладзіміра запісана была беларуская нацыянальнасць. — Жонка — палячка, бо каталічка, — тлумачыць Пятроўскі. — Пахавалі яе на праваслаўных могілках у Міры. Раней супольныя могілкі былі. Навошта могілкі дзяліць?

— Гаварылася, што паны на мужыках аралі! Няпраўда, гэта няпраўда. Хто першы паехаў на веласіпедзе? Бурковы! Парабак княжацкі. Жанчына выйшла на работу — палка, а палка, гэта быў злоты, а злоты на той час быў дарагі.

— А за колькі злотых можна было карову купіць?

— Харошая-харошая карова каштавала сто, сто дзесяць злотых.

— Значыць за год можна было купіць тры каровы і яшчэ застаецца шэсцьдзясят злотых, так?

— Га, толькі жанчынам не было пастаяннай работы. Толькі сезон. Але жанчыны круціл. У час капання бульбы яны яе закопвалі, а пазней хадзілі і забіралі сабе, — смяецца Уладзімір, нібыта здзекваючыся з пана. — За палякаў касец пайшоў касіць — чатыры злотых. Дом можна было пабудаваць за 500 злотых.

У вёсцы да 1939 года працавала польская школа. Уладзімір да такой хадзіў. Калі размаўляе з некім з Польшчы, пачынае дэкламаваць верш: «A za tego króla Jana, Co to po łbach bił pogana...» і г.д. Верш Канапніцкай, на самой справе добрай сяброўкі Элізы Ажэшкі.

— І ў час вайны была тут школа, але саветы прыйшлі і расстралялі настаўніка. За што? Жонку меў з-пад Навагрудка.

**ЖЫДЗІЦЬ БОЛЬШ ЗА ЖЫДА**

У 1939 годзе ў Міры было каля 5500 жыхароў, з чаго палавіну складала яўрэйскае насельніцтва. Горад стаў вядомым між іншым дзякуючы асветнай установе — ешыботу (вышэйшай рэлігійнай навучальнай установе, прызначанай для вывучэння Талмуда), якая дзейнічала з 1815 па 1939 год і з'яўлялася вядомым міжнародным цэнтрам габрэйскай культуры.

— Яўрэяў многа было, яны ўсе «таргашэ». Яны летам у нашу вёску на дачы прыязджалі. Здымалі кватэры. Што вы думаеце — 100 злотых!

— За месяц?

— Не, за тры. Але гэта карова! Прычым, малачко куплялі. Петушок вырас — купілі. Яечка — тожэ купілі. А калі само з-пад курыцы цёплае яшчэ — на грош даражэй плацілі. Багатыя яўрэі прыязджалі. Бедныя не ехалі. Памятаю яшчэ іх прозвішча — Заблоцкі, Каган... Яны размаўлялі па-нашаму, але паміж сабою па-свойму. Дык у іх у пятніцу пачынаўся шабас. Жыды палілі свечкі і часам яны загіналіся. Кліча мяне такі жыд Заблоцкі і просіць, каб яе паправіць. «Пяць грошы», — я ім адказваў, — расказвае задаволены са сваёй ужо дзіцячай хітрасці Уладзімір.

**МУДРАГЕЛІ ПЯТРОЎСКАГА**

Зараз на беларускіх вёсках найчасцей ціха і спакойна. Няма яўрэяў, а дачнікі прыязджаюць перш за ўсё ў цёплыя месяцы. Да Уладзіміра прыязджаюць таксама дзеці і ўнукі. Сафія — наймалодшая ўнучка падбегла да лаўкі і ўсіх пачаставала чарніцамі — па адной кожнаму. Усіх прывітала на беларускай мове і на ёй адказвала. Найбольш тым фактам быў здзіўлены Паўлавіч.

— Значыць у хаце гаворaць? Бо ў школу яшчэ не ходзіць, — гаварыў з недаверам. Уладзімір нават не аднёсся да гэтых пытанняў. Працягваў далей. Па-беларуску. — Пяць кіламетраў. За сорак пяць хвілін я пяшком быў у Міры. Чаму не канём пытаецеся? Конь быў да 42 года. У 1942 годзе партызаны каня забралі і «до свидания»! У 1944 карову апошнюю забралі. Як выжылі? Ну, вось выжылі.

— А як у вас прымалі саветаў?

— Прынялі няплоха, а пазней паказалі сваё. Яшчэ за Польшчы, калі мне было 10 гадоў і я ўжо на сябе працаваў. Кароў пасвіў. За кожную карову плацілі 80 кілаграмаў зерня. А я 10 пасвіў. А калі сезон прапрацаваў у калгасе, зарабіў 200 кг зерня і 10 капеек! У калгасах шыш плацілі!

— Колькі трэба пражыць чалавеку, каб сказаць, што ўжо дастаткова многа пабачыў, пражыў, што ўжо ўсяго хапіла?

— Няма такой меркі.

— А зараз як жывецца ў Беларусі?

— Горш, чым пад саветамі, — толькі засмяяўся і паглядзеў у напрамку маладога лесу.

Тэкст і фота
**Уршулі ШУБЗДЫ**

---



## XXI Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы

**Рэдакцыя „Нівы" і Беларускі саюз у Польшчы аб'яўляюць XXI Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы «ДЭБЮТ». У конкурсе будуць разглядацца працы грамадзян Польшчы на беларускай мове.**

**ПРЫНЦЫПЫ ЎДЗЕЛЬНІЦТВА**

**1.** Конкурс праводзіцца ў дзвюх узроставых групах:

— І група: дзеці і моладзь пачатковых школ і гімназій,

— ІІ група: астатнія ўдзельнікі (выключна аўтары, якія не з'яўляюцца членамі літаратурных творчых саюзаў).

**2.** У рамках груп конкурс праводзіцца ў дзвюх катэгорыях: паэзіі і прозы.

**3.** Конкурсныя працы, набраныя на камп'ютары або разборлівы рукапіс у двух экземплярах (паэтычныя творы — 3-5 вершаў, іншыя літаратурныя формы — аб'ёмам да 22 старонак стандартнага машынапісу) трэба падпісаць крыптанімам, пазначыць нумарам узроставай групы і паслаць на адрас: Redakcja „Niwy", ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok 2, skr. poczt. 84 з прыпіскай на канверце: XXI Ogólnopolski Konkurs Poezji i Prozy Białoruskiej.

**4.** Прозвішча, імя і дакладны адрас аўтара дасланых конкурсных прац трэба памясціць у асобным заклееным канверце, падпісаным звонку такім нумарам групы і крыптанімам, як і конкурсныя працы.

**5.** На конкурс трэба дасылаць творы, якія дагэтуль нідзе не друкаваліся і не ўзнагароджваліся на іншых конкурсах.

**6.** Арганізатары не вяртаюць дасланых твораў.

**ТЭРМІНЫ**

**1.** Тэрмін дасылання да 31 кастрычніка 2018 г. (вырашае дата паштовага штампа).

**2.** Вынікі конкурсу будуць аб'яўлены ў лістападзе 2018 г.

**3.** Уручэнне ўзнагарод адбудзецца на адмысловай сустрэчы. Аб тэрміне мерапрыемства лаўрэаты і астатнія ўдзельнікі конкурсу будуць паінфармаваны і запрошаны прыняць у ім удзел.

Конкурс праводзіцца дзякуючы фінансавай падтрымцы Міністра ўнутраных спраў і адміністрацыі.



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка
для дзяцей і моладзі


# МОЙ ГЕРОЙ — БЕЛАРУС!
## КОНКУРС „НІВЫ” НА 100 ГАДОЎ БНР

**ЛАЎРЭАТЫ:**

I месца — **ВІКТОРЫЯ ГАЦЬ** з Гімназіі пры бельскай „тройцы” — за нарыс „Беларус Тамаш Суліма” (узнагарода: РОВАР і ПАГОНЯ).

**II МЕСЦЫ:**

**МАГДА ВАЙЦЕШЫК** з Нараўчанскай гімназіі — за твор „Дзед Міцька”;

**ПАЎЛІНА ЁДЛА** з Гімназіі пры бельскай „тройцы” — за нарыс „Любімы настаўнік — дзядуля”.

Лаўрэаткі атрымалі ПАГОНЮ і РЭЧАВУЮ ЎЗНАГАРОДУ.

**ВЫЛУЧЭННІ:**

**Алівія Кузьма,** Мастацкі ліцэй у Супраслі,

**Мацей Мядзьведзь,** ПШ у Нараўцы,

**Эва Баршчэўская,** ПШ у Нараўцы,

**Якуб Васільчык,** ПШ у Нараўцы,

**Мартына Лукша,** Гімназія ў Нараўцы,

**Наталля Кіндзюк,** ПШ у Нараўцы.

Аўтары атрымалі ПАГОНЮ, КАШУЛЬКІ З ЛАГАТЫПАМ СУСТРЭЧ „ЗОРКІ”, КНІЖКУ „БЕЛАРУСКАЕ ЗОЛАТА”. Тры першыя лаўрэаткі ўдзельнічалі ў 32 Сустрэчах „Зоркі”, прысвечаных сотай гадавіне Беларускай Народнай Рэспублікі і Польшчы.

Рэдакцыя „НІВЫ” сардэчна дзякуе дырэктаркам КШ З ДНБМ імя Яраслава Кастыцэвіча — Іаанне Каліноўскай і Ірэне Яблушэўскай, настаўніцам Валянціне Бабулевіч і Анне Вярцінскай ды Анне Кандрацюк з Нараўкі за дапамогу ў падрыхтоўцы конкурсу.

Узнагароджаныя будуць друкавацца на старонках «Зоркі».

**ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!**



Магда Вайцешык і Паўліна Ёдла






Аўтары вылучэнняў



Гурт «Капрыс» з бельскай «тройкі»

Станіслаў Шушкевіч

## Верабейка

Верабейка ўвесь дрыжыць:
— Як тут жыць? Як пражыць?
Набліжаецца зіма,
Цёплай вопраткі няма.
Чык-чырык! Чык-чырык!
Я ад холаду адвык.
I азяб я, і прамок,
Слаба грэе мой пушок,
Вецер. Холад. Дождж імжыць...
Як тут жыць? Як пражыць?
Чык-чырык! Чык-чырык!
Я ад холаду адвык.

## УВАГА КОНКУРС! № 44-18

Дзед Макар стаміўся троху –
Лёг у мягкую бярлогу,
Смачна спаласе яму,
Не ўставаў усю зіму.
М........

(паводле верша Дануты Бічэль)

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку” да 11 лістапада 2018 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

Адказ на загадку № 40: лісіца. Узнагароды, запісныя кніжкі з беларускім арнаментам, выйгралі Ася Хомчык з Гайнаўкі, Ніколя Конік з Шудзялава. Віншуем!

# Беларус Тамаш Суліма

## Конкурс на 100 год БНР — мой герой беларус!

Мой герой Беларус Тамаш Суліма

Усё пачалося з песні. У шэсць гадоў я пачала хадзіць у царкоўны хор пры Іканапіснай школе ў Бельску. Усё мяне захапляла: прыгожая царкоўка, невялічкі хор, які вяла Іаанна Петручук, мая настаўніца з прадшколля. Там я сустрэла Томка Суліму. Ён адзін умеў гаварыць са мной на мове маёй бабулі. Томак прыгожа спяваў і я думала, што ён калісьці будзе бацюшкам. Якое было маё здзіўленне, калі ён выступаў на радыё або ў тэлебачанні. Я ганарылася, што ў мяне такі слаўны сябра. Збірала яго здымкі а ён смяяўся і жартаваў:

— Гэта не я!

У яго сям'і гаварылі па-свойму. Літаратурнай, беларускай мове ён навучыўся ў бельскай «тройцы», а пасля ў белліцэі. Ён заўсёды гаварыў пра беларускую культуру з энергіяй і захапленнем. Потым, як я падрасла, сустрэла яго ў Студзіводах у «Жэмэрве». Аднойчы мы паехалі калядаваць на вёску... І раптам ён дзесьці прапаў... Я не ведала, як разумець яго знікненне. Але, калі сяброўка ўкінула мяне ў снег, да мяне падбег «Мядзведзь», падаў руку і выцягнуў з гурбы. Тады я зразумела, што гэта Томак.

Тамаш Суліма вачыма вучняў з «тройкі»

Аднойчы я спытала ў яго:

— Чаму ты выбраў антрапалогію ў Варшаўскім універсітэце?

І ён з падрабязнасцямі паясніў:

— 13 сакавіка 2003 года, я перамог у Алімпіядзе па беларускай мове. Хацеў, як мае сябры з Гайнаўкі, паступіць у Варшаўскі ўніверсітэт. Статус лаўрэата дазваляў на гэта. І з восені я быў ужо студэнтам Калегіі міжфакультэтных інтэрдысцыплінарных гуманітарных студыяў. А праз некалькі гадоў стаў магістрам этнаграфіі і культурнай антрапалогіі.

Мяне зацікавіла яго роля ў фільме «Сілкі», які здымалі ў Бельску. Тамаш іграў ролю бацюшкі. Гэтую ролю прапанаваў яму рэжысёр, які таксама прыкмеціў у ім кандыдата ў святары. Тамаш ахвотна згадзіўся. Ён лічыў што гэта адзіная магчымасць хоць крыху наблізіцца да вобразу сапраўднага бацюшкі.

— Я паводзіў сябе вельмі стрымана. Хацеў як мага найлепш аддаць рэальнасць пастаці ў час пахавання, — скажа мой герой.

Некалькі месяцаў пазней гэты сам рэжысёр ангажаваў яго як акцёра ў ролік гурту «Гойракі». Там зімовы краявід, шлюб пад дубам, вяселле пры вогнішчы, партызаны, няшчаснае каханне... Фільм здымалі ў лютым, у час вялікіх маразоў. І, дзякуючы Томку, гэты вобраз «пацяплеў», ажывіўся нечым прыгожым...

Тамаш Суліма, Вікторыя Гаць, Паўліна Ёдла

Усе ведаюць, што Томак — беларус. Ён ганарыцца гэтым, гаворыць пра свае карані, кажа, якая ў нас прыгожая культура. Томак таксама добры псіхолаг.

Калі ў мяне сумненні ў нейкай справе, ён заўсёды знойдзе час, падкажа, суцешыць і дапаможа.

Такі мой герой — беларус!

Малады, сімпатычны, таленавіты! Тамаш Суліма.

**Вікторыя ГАЦЬ**

## Польска-беларуская крыжаванка № 44-18

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Dzwon / Wzrok | | | | | Klub | Kraj | Cukierek / Łyko | | Baj |
| | | | Raj / Jawa | | Kamera | | | | |
| | | | Rój / Miotła | | Ręka / Usta | | | | |
| Jar | | Wróbel / Gama | | | | | | | |
| [ornament] | Bohater | | | | | | Jaś | | Ina |
| Fan | | | | | | Jaki | | | |
| [ornament] | Mi | | | [ornament] | [ornament] | San | | | |
| Makrela | | | | | | | | [ornament] | |

**Адказ на крыжаванку № 40-2018:**

Стог, код, мур, мы, гара, жолуд, цудак, мы, ар, цалік, парык, сі. Пуп, тры, цар, журы, год, палац, рукаў, клад, міс, дрыжыкі.

Узнагароды, аўтаручкі з „аднарожцам", выйгралі **Зузанна Мішчук** з Арэшкава, **Ніколя Конік** з Шудзялава, **Агата Пуцілоўская** з Бабік, **Вікторыя Стэмпа, Юлія Мамотка** з Бельска-Падляшскага, **Іаанна Хамчук** з Гайнаўкі. Віншуем!

№ 44 [04-11-2018]

# Пра любоў і нянавісць у аўтабіяграфічнай прозе Віктара ШВЕДА і Васіля ПЕТРУЧУКА

**Дом — месца, дзе творыцца гісторыя штодзённасці і лёс кожнага асобнага чалавека. Зразумела, што ў аўтабіяграфічных творах ён мае важнае значэнне. Не выключэнне кнігі ўспамінаў „З Мора ў горад" Віктара Шведа і аповесць Васіля Петручука „Пожня", у якіх кожны з аўтараў прапануе не толькі даволі разгорнутае апісанне роднае сядзібы, хаты, інтэр'еру, але перадае свет жыцця героя, сям'і. Што да творчасці В. Шведа, то недарэмна ўжо ў назве найбольш поўнага артыкула пра ягоную паэзію Б. Белаказовіч вылучае топас дома: „Dom rodzinny, ziemia i mowa ojczysta jako toposy w spuściźnie poetyckiej Wiktora Szweda".**

Памяць кожнага чалавека ўнікальная, яна выхоплівае са шматлікіх падзей тое, што закранула пачуцці, выклікала ў сэрцы радасць ці боль. Таму і цікава сустрэць у такіх творах не агульнавядомае, а выключнае, адметнае, перажытае асабіста. Але і з гэтага перажытага пісьменнік таксама выбірае ў залежнасці ад многіх фактараў. Пішучы пра аўтабіяграфічную прозу Барыса Мікуліча, літаратуразнаўца В. Стральцова закранае пытанне „аб адметнасці самаўсведамлення асобы, ахопу ўласнага душэўнага вопыту і таго індывідуальна-канкрэтнага размеркавання акцэнтаў, якое і вызначае, урэшце, *якія менавіта* моманты бягучага душэўнага жыцця і ўласна біяграфічныя, падзейныя элементы аўтар можа і хоча замацаваць для іншых і самога сябе, а што ён пакідае нявыяўленым, незамацаваным, неаформленым". Усё гэта мае дачыненне і да прозы старэйшых белавежцаў.

Многае лучыць творы В. Шведа і В. Петручука: блізкасць жыццёвых варункаў, у якіх узгадоўваліся героі, той жа час, тое ж сацыяльнае становішча сем'яў. Але яшчэ больш у іх адрознага, бо дзяцінства героя першага твора праходзіла пад апекай родных людзей, а сіроцтва другога ператварыла маленства хлопчыка ў праўдзівае пекла. Першапрычынай такога становішча стаўся пачатак заснавання сям'і, пачуццё, з якога пачыналася жыццё бацькоў. У адной сям'і ўсё пачыналася з любові, у другой — з нянавісці. У хаце Наталлі і Мікіты Шведаў жыла любоў і павага адно да аднаго, пяшчота да дзяцей, шанаванне іх. Сям'я Ганны і Валодзі Петручукоў паўстала супраць волі маладой жанчыны. Упартая, яна не змірылася з рашэннем бацькі і, як піша аўтар, *пастанавіла памерці*. Зрабіла ўсё, каб прыдбаць невылечныя на той час сухоты, толькі б не жыць з нялюбым мужам. Не спадзявалася, што народзіць дзіця. Гэтыя розныя завязкі сюжэтнага дзеяння прадвызначылі розныя варункі ўзгадавання герояў.

В. Швед, перш чым пазнаёміць з роднай хатай, згадвае параўнальна недалёкае да ягонага маленства мінулае, Першую сусветную вайну, агонь якое спапяліў не адну беларускую вёску. Мора ацалела дзякуючы таму, што многія вяскоўцы не падаліся ў бежанства ў глыбіню Расіі. Яны вярнуліся дадому і дагледзелі не толькі ўласныя сядзібы, але апекаваліся і суседскімі. Таму захавалася цэлая вуліца, больш за сотню дамоў, што размясціліся паабапал брукаванкі.

Сярод тых ацалелых будынкаў і была хата, у якой нарадзіўся будучы пісьменнік. Пабудаваная яна была яшчэ ў XIX ст. дзедам аўтара. Пісьменнік запрашае на экскурсію, але не проста ў сялянскую хату, а ў сваё маленства, у памяць. Падкрэслівае, што ўсе вясковыя пабудовы былі амаль такія ж, з саламянымі стрэхамі. „Сцяна ад вуліцы была без акон, будынак пачынаўся зазвычай свірнам, за ім была каморка з вокнамі, а далей асноўнае памяшканне — кухня з аграмаднай гліняной хлебнай печчу". За кухняй — каморка, дзе спалі госці, перад кухняй сені на ўсю даўжыню будынка, за імі камора, дзе захоўвалі прадукты, „далей у шарэнзе былі хлявы, канюшня і на канцы доўгай будыніны знаходзіўся куратнік". Здзіўляе, што вокнамі хаты не глядзелі на вуліцу. Чаму? Мо каб чужое вока лішні раз у тыя вокны не заглянула? Але што было хаваць? Хіба не ўсё жыццё прамінала на вачах суседзяў, аднавяскоўцаў? І яшчэ. Нічога не піша аўтар пра хату, залу, чысты пакой. Так па-рознаму называюць яго ў розных вёсках. Яго не было. Толькі адзін вялікі пакой-кухня. Падрабязна апісана функцыянальнае значэнне самаробнай мэблі, кожнага прадмета. У цэнтры — печ, крыніца цяпла, ежы, спальня.

Перш чым запрасіць чытачоў у сваю родную хату, В. Петручук даволі падрабязна апісвае сядзібу: хата „патанала ў зелені ліп, вязаў і іншых дрэў, груш, яблынь, сліў, вішань. Сад прасціраўся да пуні. Сядзіба была абсаджана арэшнікам і слівамі, якіх называлі любашкамі; апрача таго, быў высокі плот". Згадвае аўтар таго, хто ўсё гэта стварыў. Гаспадара на ўсю ваколіцу, свайго дзеда. Відаць, гэта быў чалавек не толькі працавіты, але моцны, з характарам, які не трываў разгільдзяйства, злачынства... 

## Да юбілею 60-годдзя «Белавежы»







дзейства. Характарызуючы свайго героя, аўтар выкарыстоўвае напоўнены ў вышэйшай ступені адмоўна эмацыянальным сэнсам дзеяслоў — *ненавідзеў*. Ставячы яго ўслед за вызначэннем таго, што любіў гэты чалавек, пісьменнік малюе вобраз не нейкага мізантропа, скупога, а чалавека хай кансерватыўнага, ды ўсё ж справядлівага: „Дзед любіў прыгажосць і парадак. Ненавідзеў ён тых, хто без пытання браў чужое... Сад мог бы абысціся без агароджы — ніхто не палез бы туды. Калісьці знайшоўся адзін адважны, які нахапаў за пазуху яблыкаў, але потым шкадаваў гэтага цэлае жыццё". Невядома, ці знайшлося б у гэтым сэрцы любові да няшчаснага сіраціны, якім рос ягоны ўнук Васіль. Але пэўна тое, што пры ім не стала б родная хата для дзіцяці праўдзівым пеклам.

Вобраз дзедкі Ілы (менавіта так называе аўтар свайго героя) займае значнае месца і ў творы В. Шведа. Наогул, як піша даследчыца мастацкай персаналогіі беларускай прозы А. Белая, дзяцінства і старасць — тыя „апорныя" ўзросты, што сімвалізуюць асноўныя маральна-эстэтычныя каштоўнасці. Гэтыя перыяды чалавечага жыцця ёсць карэннем і парасткамі адкае супольнасці — сям'і, самай трывалай, моцнай, бо з'яднана яна крэўнымі сувязямі. Адсутнасць нечага аднаго спараджае нетрываласць у існаванні, асабліва калі адсутнічае другое звяно: у такім разе знікае „апора", надзейная падтрымка, аўтарытэтная абарона. Якраз гэта давялося перажыць малому Васілю.

Успрыняцце вобраза дзедкі Ілы (яму прысвечана асобная частка ў кнізе В. Шведа) перададзена праз светавыяўленне дзіцяці. Ягоны ўплыў на ўзгадаванне хлопчыка выключны. Бацькі былі занятыя на гаспадарчых працах, таму апеку над дзецьмі пераняў дзядуля. З партрэтнай характарыстыкі аўтар вылучае найбольш памятнае, што сведчыць не столькі пра знешнасць, колькі пра характар героя, ягонае стаўленне да ўнукаў: „Дабрадушны, сівабароды, заўсёды з ласкавай усмешкай".

Адзін у раннім маленстве зведаў любоў і пяшчоту свайго дзеда, другі ведае пра свайго толькі праз успаміны іншых. В. Петручук не спяшаецца завесці чытача ў сваю родную хату, быццам адцягвае сустрэчу з ёю, бо не выклікае яна радасных згадак. Але ўсё ж гэта „родная хацінка, згорбленая, прытуленая да дрэў, бы ад страху перад бураю". Хата нагадвае свайго малога занядбанага гаспадарскага сына, які жыве ў заўсёдным страху перад бураю-мачыхаю. Усё каштоўнае, што з'ўлялася тут, не для яго. Ён мусіць існаваць асобна ад сямейнай супольнасці, не мець ніякіх жаданняў, характэрных дзецям такога веку: „Я не мог хацець есці і не мог хацець спаць. Мне нельга было вучыцца чытаць і думаць пра школу. Мне нельга было марыць пра боты або гуляць з сябрамі. Я меў права толькі, стоячы на нагах, „рызаваць", гэта значыць, калыхаць дзяцей, без розніцы на тое, спалі яны ці не! Удзень і ўначы".

Родныя дамы герояў успрымаюцца як антыподы. Недарэмна ж хата, у якой пакутаваў малы Васіль, мела нумар 13. Аўтар не абыходзіць злавесны сэнс лічбы-знака: „Задумоўваюся над лікам 13, такі быў нумар майго роднага дома, у якім я нарадзіўся і патраціў шмат свайго жыцця". Заўважым: не *пражыў*, не *правёў*, а менавіта *патраціў*. Бо тыя гады сапраўды былі страчаныя для жыцця, забраныя нялюдскімі ўмовамі існавання пад апекай мачыхі: „Пад гэтым нумарам я быў усім, але не дзіцём. Ніхто ніколі не ўзяў мяне на калена і не пагладзіў па галаве...". Матыў страчанага часу, дакладней, дзяцінства, выразна выпісаны ў гэтым творы. Дзіця пачынае ўсведамляць сябе праз адносіны да яго іншых. Калі гэтыя адносіны поўняцца абыякавасцю, горш за тое, здзекам і нянавісцю, то юная душа не можа сябе ўсвядоміць, знікае не толькі для сябе, але і для іншых, для свету. Яна быццам застывае, перастае развівацца, напаўняцца новымі сэнсамі.

Пры параўнанні твораў відавочнае супрацьпастаўленне аўтарамі вобразаў роднага дому: у адным рай, наколькі гэта было магчымым пры няпэўным становішчы беларускае вёскі пад рознымі ўладамі, якія змянялі адна другую, не надта клапоцячыся пра законапаслухмяных жыхароў, у іншым — праўдзівае пекла для дзіцяці.

Надзвычай дакладна сутнасць дома для беларуса патлумачыў П. Васючэнка ў артыкуле „Беларус вачыма беларуса", дзе ён падкрэслівае непадзельную повязь чалавека і ягонага жытла: „Душа як хата, хата як душа — сімвалы беларускага эзатэрычнага існавання, адменнікі дзвюх сакраментальных формулаў яго існавання: «Я тут» і «Я ёсць»". Калі зважаць на тое, што душою хаты найперш апякуецца жанчына, маці, захавальніца духоўнай спадчыны, агменю, то становіцца зразумелым, што палала ў тым ачагу. Не агонь любові, а полымя нянавісці. У гэтым і ёсць прычына трагедыі малога героя, бо якая душа ў кабеты, што ўвесьчасна чыніць здзек з малога сіраціны? Абраная раднёю на другую жонку з надзеяй, што стане другою маці асірацеламу хлопчыку з тае прычыны, што сама сірата, надзеі гэтай не апраўдала. Стала мачыхай у самым літаральным сэнсе. Тыповая, часам дэманізаваная, бы мачыха з фальклору, якая шануе толькі сваіх дзяцей, увесьчасна здзекуецца з пасынка. Вобраз сіраты Васіля, створаны В. Петручуком, нагадвае і фальклорныя, і створаныя беларускімі класікамі. Згадаем Міхаську з аднайменнага апавядання Алаізы Пашкевіч. Такою, як і мачыха, нялюдскаю, халоднаю, страшнаю, стала для дзіцяці і родная хата. Няшчасны хлапчына мог бы мноства разоў усвядоміць: „Я не тут і мяне няма", як гэта за яго праз многа гадоў усведамляе аўтар.

Перад вачыма чытача кнігі В. Шведа праходзіць жыццё беларускае вёскі дваццатых гадоў, напоўненае працай дзеля хлеба штодзённага. Ды не хлебам адзіным жылі ў тых хатах. Спявалі песні, наталялі свае душы словам, спевам.

Усё гэта было і ў вёсцы В. Петручука. Але занядбанае дзіця было пазбаўленае нат такога далучэння да мастацтва, культуры. Адзіная згадка пра народныя традыцыі ў раздзеле „Закалядаваў", дзе таксама не абышлося без здзеку з малога шасцігадовага калядоўшчыка, без фізічных пакутаў і вялікае несправядлівасці, што пакінула ў душы дзіцяці глыбокую крыўду.

Мусім звярнуцца яшчэ да памежных вобразаў, якімі ў адносінах да топасу дома з'яўляюцца акно, дзверы, сходкі. Яны маюць вялікае значэнне, бо, як адзначае А. Белая, „адным з ключавых прасторавых паняццяў беларускай літаратуры... з'яўляецца паняцце „мяжа", якое ў мастацкіх тэкстах набывае багатыя і рознаскіраваныя экспрэсіўныя і сэнсава-каштоўнасныя канатацыі". У абодвух творах першаю мяжою, якая аддзяляла хатні свет жыцця малых хлапчукоў, стала не акно, не дзверы, а дзяруга, якою былі завешаны вокны. Героі пакутавалі на хваробу вачэй. Перажыць гэтае пакаранне малому з твора В. Шведа дапамагла любоў блізкіх. Увесь гэты час хлопчык знаходзіўся пад пільнай апекай родных, асабліва дзядулі. Герой В. Петручука таксама да чатырох гадоў меў падобную праблему: „Быў я зусім сляпы. Увесь час ляжаў у калысцы, абвешанай плахтамі, каб не даходзіла сонца. Твар у мяне быў пакрыты вялізным струпам, і ўсе даўно забыліся, якога колеру былі мае вочы". Але самае трагічнае: у гэтай бядзе дзіця заставалася пакінутым, адзінокім, нікому непатрэбным. Усе былі пэўныя, што хутка „пойдзе туды, дзе маці". Белы свет, сонца — самае жыццядайнае для чалавека, стала варожым для малых хлапчукоў.

Для героя В. Шведа родны дом — гэта тэрыторыя бацькоўскай, братэрскай любові і пяшчоты, памяць пра што выклікае радасна-шчымлівы водгук у сэрцы героя, пачуццё ўдзячнасці лёсу. Для В. Петручука — гэта бязмежжа нянавісці, зняваг і крыўдаў, дзе людскае было аддзелена ад сіраты непраходнаю мяжою. Таму і памяць героя пра дзяцінства роспачна-балючая, ператвораная ў незагойную душэўную рану.

Альжбета КЕДА

# Аж згасне

**Цікавасць першай ступенькай у пекла. Дзесьці за маімі вушамі прагучала чутка, што Віктар Стахвюк сарганізаваў беларускі флот і што ёсць пра гэта нейкая кніжка. І вось выказаў я ўголас зацікаўленне тэмай. Ну і рэдакцыйная сяброўка Ганна Кандрацюк абнародавала мне, што такую кнігу мне даставіць, адно з умовай, што я напішу тае кнігі рэцэнзію. Такой цаны не хацелася мне плаціць, але ж не буду нягожа адступаць ракам, толькі трэба было акунём горка праглынуць той кручок. Жанчына — найкаварнейшы вораг чалавека...**



Кнігу Віктара Стахвюка „Пакуль змеркне дзень” атрымаў я амаль маланкава, прачытаў з памяркоўнай хуткасцю, толькі з тою рэцэнзіяй мне неяк не выходзіла рушыцца з месца. Ну, думаю, можа неяк справа, як гэта гаворыцца, разыдзецца па касцях. Але ж усё-такі абавязацельства вісела нада мною Дамоклавым мячом. Буду так адкладваць і адкладваць, то ж настане немінучы час стаўлення перад святым Пятром, а ён жа зараз загляне ў свае паперы, дзе абавязацельствы падкрэслены — так мне здаецца — чырвонай зззяючай фарбай. І што я яму скажу, што вярнуся і зараз жа напішу. А ён мяне скіруе не ў той ландшафт, дзе абвешаны медалямі народ шчасліва катаецца на лыжах і каньках, але накіруе ў той краявід, дзе кіпяць катлы са смалою і грэшнікамі, а рагатыя выгадна сядзяць за пультамі кіравання робатамі, што падаюць звадкаваны газ у пякельныя топкі...

За той час, калі я марудзіў, маглі ўжо паўстаць шматлікія рэцэнзіі згаданай кнігі і такі ж магчымы мой твор быў бы адно нейкім апокрыфам. Або нават мог бы стаць плагіятам, калі нехта да гэтага часу напісаў ужо ідэнтычную рэцэнзію. Хаця апошняе мала верагоднае, але верагоднае і згодна закону Мерфі, які вяшчае, што калі нейкае здарэнне верагоднае, то яно абавязкова калі-небудзь збудзецца. Такім чынам гэты вось тэкст, у выпадку спляцення спрыяючых абставін, можа ўжо мець свайго старэйшага брата-блізнюка...

Даволі гэтых фармальных разважанняў, пара брацца за справу, а дакладней — за кнігу Віктара Стахвюка „Пакуль змеркне дзень”. Кніга размашыстая — яна ахоплівае ўсю тую прастору, якая ў глабальным плане ахоплівае тэрыторыю ад Ціхага да Атлантычнага акіяна, а ў больш шчыльным геапалітычным значэнні: ад Урала да Атлантыкі. І дух гэтага апошняга асэнсавання чырвонай ніццю цягнецца незаўважна праз усе старонкі. Жыве той дух між Корсікай і Камчаткай, дзе прычалены галоўныя эпізоды кнігі...

Возьмем для прыкладу Корсіку, згадваючы пра якую нельга абысці бокам найбольш бадай вядомага яе ўраджэнца Напалеона Банапарта. Не мінае яго і Віктар Стахвюк: „Не зразумець мне таксама, за што французы ідалапаклоннічаюць перад гэтым невысокім мясніком з Корсікі, які выразаў, каб насыціць сваю неўтаймаваную хцівасць і пыху, звыш палавіны мужчынскай папуляцыі Францыі і кінуў народы Еўропы ў хаос пажараў, бітваў, марадзёрства, гвалтаў, смерці соцень тысяч, калі не мільёнаў звычайных людзей. Пасля Ватэрло ў Францыі не было ўжо мужчын, здольных трымаць у руках трыкалор”.

Вось толькі што было пра Напалеона Банапарта, а цяпер пра ананімнага Таго: „Той, хто прыдумаў шведскі стол, заслужыў прэмію, хай сабе і не нобелеўскую. Але калі глядзіш на супердэмакрата, які разбурыў некалькі краін, а іх народы кінуў у бязвыхадную яму хаосу, а цяпер паслаў забойцаў з ЧВК (*Частная военная компания*; кніга выдадзена ў 2014 годзе — А. В.) на ўсход „Акраіны”, трацiш пашану да некалі прэстыжнай прэміі, што спаўзла да ўзроўню лімерыкаў Віславы...”.

Ледзь хапаеш дух ад хвалявання і абурэння разбурэннямі толькі што ахарактарызаванага ананімнага разбуральніка, калі на чытаючага звальваецца чарговая лавіна: „І вось ён, праслаўлены Дастаеўскім, Бадэн-Бадэн. Тутака чарнагорскія героі Міодрага Булатавіча са старонак ягоных „Людзей з чатырма пальцамі” дзерліся з харвацкімі фашысцюгамі за гонар патомкаў Святой Русі. За гонар славянскай цывілізацыі, ад якой харваты адракліся пасля хітрамудрай езуіцкай прывіўкі ім звярынай нянавісці да праваслаўнага Ўсходу”.

А зараз і пра славянскую цывілізацыю: „А калі б, на той прыклад, у Польшчы ці Беларусі, стварыць нейкую дзяржустанову па справах урбаністыкі і парадку, з правам штрафаваць хаотыкаў і рассаднікаў бруду і нечысці!? З выдзеленымі з бюджэту гмін сродкамі для пасеву газонаў і траўнікаў, квяцістых агародчыкаў, на пабудову і рамонт агароджаў і ўтрымання эстэтыкі платоў, фасадаў будынкаў і вясковых хат, з ліквідацыяй развалюх. Каб зніклі з пейзажаў мястэчак і вёсак забалочаныя, смуродлівыя панадворкі, поўныя гнойных жывёльна-птушыных адходаў, па якіх агідліва ісці...”.

Чарговая цытата: „Жаночая частка нашай кампаніі нечакана ўсхвалявалася: сярод натоўпу з’явіўся мужчына, які на адной прывязі вёў сваіх дзетак-блізнюкоў, бы сабак”. Пры гэтай нагодзе варта падкрэсліць, што аўтар шматразова кранае дамска-джэнтльменскія азарэнні, аднак, як спрактыкаваны аквалангіст, ніколі не сыходзіць на глыбіню ніжэй пояса.

Пара заняцца згаданай на самым пачатку арганізацыяй беларускага флоту. Яго склаў адзін толькі карабель польскай рыбалоўнай кампаніі „Грыф”, „Гайдук”. Ён быў перарэгістраваны ў Беларусі, на ім былі падняты бел-чырвонабелы сцяг, у гэтай здзелцы браў удзел і Віктар Стахвюк. А зроблена гэта было з тою мэтай, каб пад гэтым сцягам кампанія „Грыф” магла лавіць мінтая ў Ахоцкім моры ў рамках выдзеленай для Беларусі рыбалоўнай квоты сарака тысяч тон, „якая і так не змагла б іх злавіць, не маючы сваіх караблёў”. Было гэта ў 1995 годзе, а два гады пазней „Гайдук” плаваў ужо пад расійскай бандэрай. Кампанія „Грыф”, пачынаючы з 1995 года, „была пастаўлена ў цяжкае эканамічнае становішча. Арышты караблёў і абыякавасць ураду краіны не толькі да іх, а да лёсу ўсёй гіганцкай (10-я ў свеце пры Герэку) гаспадаркі краіны, прымусіла шэфаў „Gryfa” да рэзкіх рашэнняў для ратавання рэштак фірмы”.

Штосьці мне здаецца, што спадар Стахвюк памыляецца ў магутнасці тадышняй польскай эканомікі. Сам жа ён піша наступнае: „На пачатку дзевяностых гадоў у Германіі было ўсяго тры траўлеры і імперскія амбіцыі ў адносінах прысутнасці на сусветных акіянах. Не лепш было і з амерыканскім рыбалоўным флотам”. Польшча тады мела, паводле аўтара, 120 траўлераў і з гэтага ясна відаць, што польская гаспадарка была тады ці не на другім месцы ў свеце, зараз за савецкай, пакідаючы ззаду немцаў і амерыканцаў...

Далей: „Пазней урад Польшчы (...) быў глухі на просьбы і петыцыі фірмы сляпы на простыя эканамічныя разлікі, што, даючы ўрадавыя гарантыі на крэдыт у 5 мільёнаў долараў, ён жа выйгрываў 23 мільёны, а апрача гэтага не быў прымушаны прымаць на сябе даўгі прадпрыемстваў”. Шкада, што не было ў тым урадзе нашага маіцарства аўтара, для якога тыя мільёны ўяўляліся пад лёгкай рукой. І такім чынам вельмі лёгкай рукою Віктар Стахвюк становіцца святейшым са святейшых і лёгкай нагою стае з боку святога Пятра, размяркоўваючы вядомы яму ўрадавы народ у пякельныя катлы. Бо як жа ж можна было дапусціць да таго, каб такая магутная наша эканоміка, якая ў 1980 годзе закідала полкі ў магазінах нашага мацарства мільёнамі бутэлек воцату, развалілася да сённяшняй руіны. То ж таго воцату было *кожнаму паводле патрэбнасцей*... Як у Гандурасе бананаў...

А калі б, на той прыклад, у Польшчы ці Беларусі, стварыць нейкую дзяржустанову па справах талковага пісання, з правам штрафаваць хаотыкаў... Тады настала б поўная неразбярыха. А цяпер жа ж такі адзін ці другі аўтар індактрынуецца, індактрынуецца, індактрынуецца — пакуль змеркне дзень. І тады ўсё становіцца ясна, як светласць нашай славянскай Святой Русі.

Кнігу Віктара Стахвюка „Пакуль змеркне дзень”, калі яе хто не чытаў, варта аднекуль раздабыць і прачытаць. Чытаеш яе і захапляешся нечаканымі паваротамі думак аўтара. Ды не толькі паваротамі думак, але і ягонымі прыгодамі ў нетрах сусветных акіянаў. Проста плаваеш разам з ім, з аквалангам на галаве і з прывязаным да нагі нажом. Бо не толькі звычайнаму вадалазу пагражаюць водныя монстры, ад іх страхаваўся трызубам і сам Нептун. І ва ўрадавых кабінетах таксама сядзяць монстры-разбуральнікі шчаслівай утопіі. І яшчэ, калі збудзецца светлая думка, могуць да гэтай кагорты далучыцца гмінныя карнікі па справах урбаністыкі і парадку...

Можа, аднак, асабліва калі ў каго боязны, субдэпрэсіўны характар, гэтай кнігі не чытаць?..

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# У прыходскае свята ў Орлі

Орля з’яўляецца адным з важнейшых цэнтраў праваслаўнага жыцця на Беласточчыне. Прыходскае свята Іаана Багаслова, якое ў народзе называюць Іванам, у Орлі ўзнёсла і ўрачыста адзначаецца двойчы ў год: 21 мая і 9 кастрычніка. У Свята-Міхайлаўскай царкве кожны раз, нягледзячы на надвор’е, збіраецца мноства святочна апранутых жыхароў мястэчка і наваколля ды іхніх гасцей. Асабліва многа збіраецца, калі прыход наведвае мітрапаліт ці іншы царкоўны іерарх ды выпадае нейкая двайная ўрачыстасць. Так было сёлета: у прыходскае свята ў гонар св. Іаана Багаслова свае юбілеі адзначаў настаяцель Свята-Міхайлаўскага прыхода а. Славамір Хвойка — 35-годдзе свяшчэнства і сужонства ды 60-годдзе з дня нараджэння. А псаломшчык Дзмітрый Мартыновіч адзначаў 35-гадовы юбілей працы ў карысць Арлянскага прыхода. А. Славамір Хвойка службу пачынаў на Захадзе краіны — на Вернутых землях, пасля ў Люблінскай епархіі, затым у Сямятычах, а ад трох гадоў — у Орлі.

У аўторак, 9 кастрычніка, ужо з раніцы рынак мястэчка запоўніўся святочна апранутымі людзьмі, якія, як заўсёды, адзначалі свята на свой лад: адны святкавалі пры ларках (яшчэ не так даўно і пры піве ў гасподзе, якая пяць гадоў таму спыніла сваю дзейнасць), іншыя ў парку, больш адухоўленыя на цвінтары, а найбольш набожныя маліліся ў царкве.

У Орлю звальваюцца самаходы тройчы ў год: на беларускі фэст і на Іванавы. Немалая прыцаркоўная аўтастаянка не памесціла ўсіх самаходаў і імі запоўніліся вуліцы ваколіц адпачынковага парку; аж пад Гмінную ўправу. Побач парку свае ларкі паставілі кандытары, але было іх менш, чым раней бывала. Дзяцей на вёсках меншае, то і меншае зацікаўленасць ларкамі. Выстралы з дзіцячых пісталетаў ды выбухі петардаў былі нячастыя — мабыць таму, што людзі сталі больш ашчаднымі.



■ Айцец Славамір Хвойка вітае мітрапаліта Саву

Каля гадзіны 9.30 на цвінтар завітаў чаканы мітрапаліт Сава. На брусчатцы перад уваходам у храм быў разасланы некалькіметровы дыван з розных кветкавых пялёсткаў. Мітрапаліта прывіталі спярша дзеці, пасля моладзь, гмінныя ўлады з войтам Пятром Сэльвесюком ды многія святары. У царкве пачалося ўрачыстае набажэнства, якое праз мегафоны транслíравалася навонкі; на жаль, якасць такога агучання ў Орлі не найлепшая. Вакол храма традыцыйна сталі групы людзей, якія па прывычцы не заходзяць у царкву; дарэчы, не хапіла б усім месца. Навонкі няма таўкатні і калі агучанне ненайлепшае, то можна пагутарыць або пастаяць за плотам каля брамы, дзе можна пакурыць або абысці ларкі. Уваходзяць яны на царкоўны пляц тады, калі раздаюцца званы і пачынаецца хрэсны ход. Побач храма стаяў кіёск з культавым таварам, які абслугоўвалі дзве прадаўшчыцы, бадай з-за ўсходняй мяжы. Зацікаўленасці гэтай прапановай я не заўважыў, затое нехта пракаментаваў, што калі б сюды з’явіўся Ісус, то ён разагнаў бы той латок, так як напісана ў Бібліі.

Многія вернікі аставаліся звонку храма, але, як я заўважыў, лавачкі побач плота, якія традыцыйна займалі пажылыя людзі, не былі занятыя. Ну, што ж, адыходзяць яны з гэтага свету, або слабеюць і астаюцца дома, а менш пажылым хапае сілы і пастаяць.

Пасля хрэснага ходу мітрапаліт Сава сказаў пропаведзь, у якой прыгадаў асобу Іаана Багаслова і ягонае навучанне ды накіраваў канкрэтныя словы вернікам: „Трэба задумацца над гэтымі вельмі сур’ёзнымі рэчамі. Мала казаць — я праваслаўны, я веруючы, часам прыходжу ў царкву — гэта мала. Трэба ў жыцці быць апосталам, трэба ў жыцці быць сведкам ісціны...”.

Настаяцель Славамір Хвойка ў сваёй пропаведзі таксама прыгадаў асобу Іаана Багаслова: „Калі будавалі царкву і выбралі заступнікам святога апостала Іаана Багаслова пяцьсот гадоў таму (тадышняя царква была па вуліцы Бельскай) і падумалі, што нават калі царквы не будзе, то памяць пра яго будзе цэлы час жыць у гэтым народзе. І па сённяшні дзень, калі мы знаходзімся ў царкве св. Архангела Міхаіла, усё-такі памяць аб апостале глыбока астаецца ў народзе і ў малітве да яго звяртаемся”. Настаяцель прасіў таксама мітрапаліта глыбока маліцца за ўсіх нас, каб Бог захоўваў нашу краіну ад усялякіх бедстваў; вось у апошнім часе навокал бедствы, а Гасподзь любіць наш народ і людзі жывуць спакойна.

Мітрапаліт Сава блаславіў і падзякаваў настаяцелю, матушцы, царкоўнаму хору і ўсім прысутным святарам ды прыхаджанам, асабліва адводзячы ўвагу дзецям; заклікаў ён любіць сябе ўзаемна. Затым мітрапаліт узнагародзіў царкоўнымі адзнакамі матушку і псаломшчыка Дзмітрыя Мартыновіча. Віншавальны ліст настаяцелю зачытаў таксама войт Пётр Сэльвесюк. Віншавалі свайго настаяцеля і многія прыхаджане. Прыходскае свята і юбілей а. Славаміра Хвойкі былі ўрачыстай падзеяй для ўсяго Арлянскага прыхода, а вернікі разыходзіліся дамоў адухоўленымі.

Тэкст і фота **Міхала МІНЦЭВІЧА**

---



Людзі сярэдняга веку, пэўна, будуць памятаць, як напрыканцы 80-х гадоў мінулага стагоддзя шмат хто з тагачаснай моладзі захапляўся такім музычным жанрам як heavy metal. „Цяжкі рок”, „металісты”, чорныя скураныя курткі з бліскучымі металічнымі заклёпкамі і іншымі ўпрыгожаннямі сталі своеасаблівым сімвалам той эпохі — эпохі апошніх гадоў існавання камуністычнага рэжыму ў шмат якіх краінах.

Цяпер heavy metal rock ужо не так чуваць на маладзевых дыскатэках, хоць ён, зразумела, там прысутнічае, але рэю не вядзе. У той жа час ягоныя прыхільнікі ёсць, бадай, усюды, і ўсюды ёсць тыя, хто грае гэтую цудоўную для кагосьці музыку.

Для таго, каб пазнаёміцца з тымі, з кім можна атаясаміць беларускі heavy metal, варта зайсці на сайт ByMetal, які месціцца ў інтэрнэце па адрасе **https://bymetal.org**.

„ByMetal — праект, накіраваны на асьвятленьне беларускае метал-сцэны і датычных да яе падзей і зьяваў”, — так пазначаюць свой сайт яго стваральнікі. Акрамя таго, што гэтае пазначэнне даволі сціплае, так яно яшчэ і месціцца там, дзе яго вельмі цяжка адразу ўбачыць — у левым ніжнім вугле цэлага выяўлення, дзе звычайна пазначаецца назва вэб-дызайн студыі, якая стварыла сайт. Там жа, дарэчы, месціцца і выйсці на іншыя раздзелы сайта, такія як „Афіша”, „Навіны”, „Рэпартажы”, „Інтэрв’ю”, „Рэцэнзіі”.

Галоўная ж старонка вельмі падобная на нейкую дошку з абвесткамі-афішамі ўсяго таго, што адбываецца ў „металічным” жыцці ў Беларусі. Так, адразу ў вочы кідаюцца арыгінальна пададзеныя звесткі аб тым, які гурт у якім горадзе будзе выступаць бліжэйшым часам. Калі рыхтаваўся дадзены артыкул, стала вядома, што легендарныя чэшскія грайндэры Spasm наведаюць Берасце, а ў Мінску будуць выступаць гурты з Беларусі і Украіны, святкуючы Хэлуін. Там жа ў Мінску на пачатку лістапада плануе выступіць „меланхалічны, задумённы, крыху ня з гэтага часу, галандскі кампазітар Jozef Van Wissem зь лепшымі хітамі і новым альбомам You Know That I Love You”, а мінскія перапеўшчыкі Rammstein — Rammstein Tribute Band выканаюць самыя лепшыя песні „легендарных немцаў”.

Нягледзячы на тое, што абвесткі аб новых імпрэзах, па ўсім відаць, абнаўляюцца своечасова і аператыўна, гэтага нельга сказаць пра навінныя паведамленні. Рубрыка „Навіны” змяшчае апошнія нататкі, якія пазначаны сёлетнім маем. Пры тым, што адна з гэтых майскіх навін распавядае пра 10-годдзе „ў метале” дадзенага сайта.

Разам з тым вельмі прыемна, што ўладальнікі сайта не забыліся на найважнейшае для беларусаў свята — Дзень Волі, апублікаваўшы з гэтай нагоды свой сакавіцкі тэкст. Цікава, што аўтар расповеду Алег Зелянкевіч і рэдактар Ян Мачульскі нават звязалі „цяжкі металічны рок” са стагоддзем БНР. „Heavy Metal у Беларусі заўсёды быў датычны той магутнай волі, якая нарадзілася 100 год таму. Дакранаючыся да нашай плыні, слухаючы творы і наведваючы канцэрты беларускага металу, можна лёгка адчуць і ўбачыць сувязі, сімвалы, прысутнасць нечага. Людзі цягнуцца да гэтага, і ты разумееш, што гэта тое, што мае быць. Нешта інтуітыўна зразумела-свойскае, роднае. Што бяз гэтага ўсё было б ужо не адметна і не цікава, не па-нашаму”, — сцвярджаюць беларускія „металісты”.

**Аляксандр ЯКІМЮК**

---

Дата з Календара

Падзеі і асобы БНР

## 135 гадоў з дня нараджэння

# Янкі БЫЛІНЫ

Беларускі каталіцкі святар, пісьменнік, паэт Янка Быліна (сапраўднае прозвішча Ян Семашкевіч) нарадзіўся ў сялянскай сям’і 30 кастрычніка 1883 г. у вёсцы Лакцяны (цяперашні Астравецкі раён). Біяграфічныя звесткі пра яго ў розных крыніцах досыць сціслыя.

Паходзіў Ян Семашкевіч з беднай сялянскай сям’і. Вучыўся ў Віленскай каталіцкай духоўнай семінарыі, якую скончыў у 1907 годзе. У семінарыі тады навучалася вельмі шмат беларускіх патрыётаў, якія пазней стварылі цэлую хвалю беларускамоўнага каталіцтва. Неўзабаве быў высвечаны на святара. Хутка зазнаў пераслед з боку расійскай улады. Характэрны наступны факт — у 1910 годзе святар Семашкевіч быў засуджаны да штрафу 25 рублёў і адхілены ад службы за тое, што вянчаў праваслаўнага хлопца з дзяўчынай каталічкай. Пазней падобная сітуацыя з „незаконным шлюбам” паўтарылася. Быў прызначаны пробашчам у Смаргоні, але сам адмовіўся ад гэтага месца службы. Пазней атрымаў месца ў Дварцы (Дзятлаўскі раён). Там ксяндза Семашкевіча неаднаразова спрабавалі дыскрэдытаваць — як жыхары, так і ўлады, за розныя „няправільнасці”. Праўда, мясцовы праваслаўны святар Канстанцін Калішэвіч выказваўся пра яго нейтральна і амаль пазітыўна. Паводле сведчанняў гэты святар актыўна выступаў супраць п’янства. У чэрвені 1912 года Семашкевіча перавялі на пасаду пробашча ў вёску Дуды.

Семашкевіч служыў таксама ў касцёлах у мястэчку Ілля на Вялейшчыне, у Цудзеніках (Ашмянскі раён), у Медніках (цяпер на тэрыторыі Літвы), у Лаварышках ля Вільні, з 1926 года — у Дукштах каля Трокаў. Да беларускага руху далучыўся пад уплывам Вацлава Ластоўскага. Быў адным з тых каталіцкіх святароў, якія актыўна ўкаранялі беларускую мову ў набажэнствы і зносіны з парафіянамі. За гэта зазнаў пераслед з боку ўлад тагачаснай Польшчы. У верасні 1939 года арыштоўваўся НКВД, але пазбегнуў расстрэлу.

З 1933 года Семашкевіч служыў ксяндзом на Беласточчыне — у Янаве-Падляскім (да 1937 года), Ялоўцы (1937-1939), Міхалове (1939-1946), Бомблі (1946-1956). Там і перажыў Другую сусветную вайну. На жаль, у гэты перыяд ён адышоў ад літаратурнай і актыўнай беларускай грамадскай дзейнасці.

Як літаратар Янка Быліна пісаў гумарыстычныя вершы, байкі, вершаваныя апавяданні, санеты, трыялеты. Друкаваўся з 1917 года ў газетах „Гоман”, „Крыніца”, часопісах „Маланка”, „Калосьсе”, „Шлях моладзі”, „Хрысьціянская думка”, „Снапок”, „Пралескі”. У 1918 годзе імкнуўся выдаваць народны штотыднёвік „Сейбіт”. Аўтар зборнікаў паэзіі „На прызьбе” (Вільня, 1918, перавыдаваўся ў 1926 годзе), „На покуці” (Вільня, 1934), рэлігійных твораў „Ружанец да Найсвяцейшае Дзевы Марыі” (Вільня, 1928), „Песні жальбы або набожныя разважанні аб муках і смерці Збаўцы Езуса Хрыста” (Вільня, 1929), „Дарога крыжа” (1930). Перакладаў на беларускую мову рэлігійную літаратуру.

Памёр Янка Быліна 18 лютага 1956 году ў мясцовасці Мар’янава. Пахаваны каля касцёла ў Бомблі. Ягонае імя стала вядомым беларускай грамадскасці ў час нацыянальнага адраджэння. У 1993 годзе ў Астравецкім раёне былі ўрачыста адсвяткаваныя 100-я ўгодкі з дзён нараджэння Казіміра Сваяка і Янкі Быліны. А ў жніўні 2003 года грамадскае аб’яднанне „Вільняр” арганізавала на малой радзіме Быліны ў Лакцянах мастацкі пленэр і краязнаўча-літаратурныя чытанні.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Засталіся адно ўспаміны (47)

Вясельная забава ў Дубяжыне доўжылася далёка за поўнач. Старэйшым, хто хацеў адпачыць, гаспадары забяспечылі начлег. А пасля было снеданне і «паправіны». Такім чынам мы па-святочнаму адзначылі і першамайскае свята. У пасляабедзенны час мае госці падаліся дамоў у Чаромху. Я застаўся на сваёй новай кватэры. З таго часу маё жыццё кіношніка перамянілася.

На працу ў Беласток я падаваўся з Падбелля, а не з Чаромхі. Затым вяртаўся з камандзіроўкі не ў Кузаву, толькі ў Дубяжын. Цесці ставіліся да мяне з належнай пашанай. Калі збіраўся на працу на вячэрні цягнік з Падбелля ў Беласток (кіношнікі з кінаперасовак пачыналі працу ў сем раніцы), дык Сцяпан Іванавіч падвозіў мяне фурманкай, а ў зімовы час — санкамі на прыпынак. Вяртаючыся з працы, стравы рыхтавала мне жонка Анна Сцяпанаўна. Раней, у летні час, калі не арганізавалі школьнікам ранніШнікаў, у святочныя дні я падаваўся ў Кузаву. З навакольных вёсак Бельшчыны, пасля жаніцьбы, кожную вольную хвіліну намагаўся правесці са сваёй шлюбнай. Так было, калі з'язджалі пасля вечаровых сеансаў з Кнарыд, Пілік, Ягуштова, Спічкоў ці Катлоў. Падарожжа да жонкі адбываў я заўжды чыгуначным транспартам, бо такая была магчымасць.

На Бельшчыне наша брыгада мела няшмат сёл, таму ў маршрутным спіску прапісаны яны былі пры канцы. Праязджаючы праз Бельск-Падляшскі, мы наведвалі калег са сталага кіно «Зніч». Кіраўніком быў сімпатычны дзядок Шчэрба, як не памыляюся, а кінамеханікамі — Юрка Філіпюк ды Катовіч (імя не запамяталася). Калі Алік Чарнянін падаваўся на месячны водпуск, кінамеханікаў падсылалі нам з Бельска — Юрку Філіпюка, Катовіча, а пазней Янку Паўлючука з Цялушак. Шафёра Валодзю Скепку заступалі шафёры з ВПК: Валодзя Іванюк, Янка Муцусь, а ў двух выпадках рэкамендаваў я Білевічу сваіх сяброў — Васіля Саўчука з Апакі ды Федзю Ваўжэнюка з Дубяжына. Мяне ў час водпуску заступалі кіношнікі з беластоцкіх сталых кіно.

На Бельшчыне адной з больш «хадавых» вёсак было Ягуштова. Сяло вялікае ды культурнае. Можна сказаць «мястэчковае». У ёй былі святліца, мясцовая ГСаўская крама добра забяспечана прамтаварамі ды шыкарная мураваная школа. Сеансы арганізавалі ў гімнастычнай зале, зарэгістраванай на дзевяноста чалавек. Прысутнасць на сеансах была адной з больш. З таго, што памятаю, кіраўніком школы працаваў сімпатычны ў акулярах мужчына сярэдняга росту, якога, здаецца, называлі Аніськам. З ім працавалі іншыя настаўнікі, але я запамятаў Ваську Кардзюкевіча, музыканта. Ён быў другі раз жанаты з маёй добрай знаёмай Верай Міхалюк з Агароднік. З Ягуштова выходзіў мой сардэчны калега Толік Скарбіловіч, які працаваў старшынёю ў Павятовым праўленні Саюза вясковай моладзі. Пазней разам мы ўдзельнічалі ў лагеры над возерам Шэлёнг-Велькі непадалёк Аструды, адкуль падаваліся на адкрыццё помніка на палях Грунвальда. У той час я меў нагоду пазнаёміцца з генералам брыгады Янкоўскім, ураджэнцам Ягуштова, які забяспечваў наш лагер вайсковым аўтамабільным транспартам. А пазней у час арганізаваных сеансаў у ягуштоўскай школе мы мелі нагоду паўспамінаць з Толікам мінулую дзейнасць у гайнаўскіх маладзёжных арганізацыях.

(працяг будзе)

Уладзімір СІДАРУК

## ЗАПРАШЭННЕ

**Пагаворым пра польскую і беларускую літаратурную Беласточчыну.**

Госцем Дыскусійнага клуба АБ-БА 8 лістапада ў 17:30 будзе

**Д-Р КАТАЖЫНА САВІЦКА-МЕЖЫНЬСКА**

літаратуразнаўца з Філалагічнага аддзялення Універсітэта ў Беластоку, аўтарка кніжкі «**Poruszyć miejsce. Obraz Białegostoku w twórczości Sokrata Janowicza i Ignacego Karpowicza**».

## Гарадскія агародчыкі

Трэба любіць гэты занятак, каб садзіць агародніну, кветкі ды пладовыя дрэўцы. Буракі, моркву ці цыбулю трэба даглядаць — паліваць ды палоць. Усё ж гэты занятак карысны. Дае прыбытак, спакой і нават добры адпачынак на свежым паветры. Добра пабываць у сваім загарадным малым доміку з альтанай або ў цянку пад пладаноснымі дрэўцамі на сваім участку. Можна пайсці на прагулку дагледжанымі алейкамі. Вясной і летам яны абсаджаны кветкамі і дэкаратыўнымі дрэўцамі. Каб і зімой зрок цешыла зелень, пасадзілі туі.

Уладальнікі дачных участкаў (па-польску: дзялкоўцы) маюць у Гайнаўцы тры вялікія агароды. Адзін з іх — Сямейны дачны агарод „Падляшша" („Podlasie"). Ён за горадам і пад лесам Белавежскай пушчы. Налічвае 355 участкаў. Ёсць ладны будынак, у якім знаходзіцца бюро і даволі прасторная святліца, а ў ёй столікі і крэслы. Праўленне агарода „Падляшша" ад шасці гадоў узначальвае Аляксандр Ляўчук (ён мой школьны сябра, ураджэнец Новага Ляўкова Нараўчанскай гміны). Як кожны год так і сёлета ў верасні гайнаўскія ўладальнікі дачных участкаў святкавалі свой дзень. Запрасілі яны карэспандэнта „Нівы".

У святліцы сабралася многа ўладальнікаў участкаў. Старшыня праўлення прывітаў сабраных, каротка, але змястоўна, расказаў гісторыю святкавання Дня ўладальнікаў дачных участкаў у Польшчы. Затым зачытаў прозвішчы ўладальнікаў, якія сёлета сталі пераможцамі ў конкурсе „Найпрыгажэйшы ўчастак у 2018 годзе". Самым прыгожым — паводле конкурснай камісіі — сёлета стаў участак Ядвігі і Ірынея Семенюкоў. Вылучэнні атрымалі Аляксандр Лукша, Катажына і Яцэк Вертэлі, Малгажата Чэркаўская, Галена і Пётр Лаўранюкі, Валянціна Волік, Анна і Юрый Хадакоўскія, Галіна Чыжэўская, Эльвіра Макіцкая, Антаніна і Васіль Федарукі, Андрэй Грабоўскі, Анэта і Багуслаў Панасюкі, Ганна Арабчук, Ніна Рачкевіч, Яўгенія і Яўген Ахрымюкі ды Аляксандр Куптэль.

Пасля ўручэння дыпломаў і рэчавых узнагарод зайграў аркестр і пачалася танцавальная вечарына. Панавала прыемная і сардэчная атмасфера. Уладальнікі дачных участкаў — па ўсім відаць — любяць працаваць ды, калі ёсць такая нагода, танцаваць.

Янка ЦЕЛУШЭЦКІ

## 04.11 — 10.11

**(22.03. — 20.04.)** Забудзешся пра самоту, а каханне будзе мець асаблівы смак. Радасць і энергія. 7-11.11. незабыўныя ўражанні і гарачыя жарсці. Крыху ўскладненняў і нялёгкіх рашэнняў. На самотных каханне зваліцца 7-11.11.! Дома час парадкаў. На працы давярай не ўсім. Найлепшыя ўдачы ў народжаных на пачатку знака. Неблагое здароўе.

**(21.04. — 21.05.)** Ніякая справа не вырвецца табе з рукі. Удачы. Будзеш ваяўнічы. Паправіш форму. Дабро ўчыненае 4-8.11. вернецца двойчы. 6-8.11. лёгка зробіш «скок у бок», будзь асцярожны! Адзінокі Бык можа 7-11.11. пазнаёміцца з кімсьці цікавым, але знаёмства можа кончыцца пасля адной ночы. Працаваць на ўсю катушку будзеш увесь лістапад, чуючы на спіне дых канкурэнцыі. Калі хочаш пачаць новы бізнес, паспей перад 8.11.

**(22.05. — 22.06.)** Кліча цябе свет, дык не сядзі дома. Адкрый галаву на новыя прыбытковыя задумы, а сэрца на каханне. Шматабяцальныя перспектывы. Але магчымыя няміла сюрпрызы. 7-11.11. разгарыцца полымя жарсці ў старых парах. Добрыя весткі ў адміністрацыйных і жылёвых справах. Слухай шэфа. Лічы таблеткі.

**(23.06. — 23.07.)** Не будзе прычын для турбот, будучыню ўбачыш у лепшых колерах. Новае каханне можа цябе зачараваць. 6-8.11. будзеш мець вострую інтуіцыю, вырашай цяпер важнае, інвестуй. Настрой добры, разварушаная амбіцыя Зможаш паправіць сямейныя і суседскія турботы. 4-8.11. смела флірту, пакажашся з як найлепшага боку, а няснемасць дадасць табе таямнічасці. На працы кароткі застой, з 9.11. больш творчы занятак. Пільнуйся ад інфекцый.

**(24.07. — 23.08.)** Трэба будзе пазмагацца за працу і прафесійную пазіцыю. Але маладзік Месяца 6-8.11. можа падкапаць у табе самаўпэўненасць. 6-11.11. выпадковая сустрэча можа кончыцца рандэву. Добры час на любоў. Ад тэмпу здарэнняў закруціцца ў галаве. На працы нялёгка, не імправізуй, трымайся планаў. Правярай рахункі. Трымай дыету.

**(24.08. — 23.09.)** Будзеш марыць аб каханні, але старанішся ад людзей. На рабоце ўварванне галавы, а нуднавата дома. Павышай кваліфікацыі. Калі ты з другой дэкады, у час сустрэчы паміж 4-9.11. паміж вамі заіскрыцца. Ці гэта адпаведная для цябе асоба, убачыш з першага пагляду, але калі адчуеш, што з гэтага нічога не будзе, не рабі той асобе надзеі. 4-8.11. ідзі на «рандэву ў цёмна». Дома дзяліся абавязкамі. На працы прыкусі сабе язык.

**(24.09. — 23.10.)** 4, 5.11. паставіш на сваім, будзеш задаволены. Але 6-8.11. маладзік у Скарпіёне можа часова прытупіць твой аптымізм і адняць жыццярадаснасць. Будзеш прыгожы, прыемны, што паўплывае на адносіны на працы. 7-11.11. проста неверагодныя адчуванні ў пасцелі! Хтось патрабуе тваёй парады. На рабоце — поспехі, будзеш вельмі крэатыўны. Больш варушыся.

**(24.10. — 22.11.)** 6-8.11. зрэалізуеш важную справу звязаную са здароўем. Не адкладвай нічога на пасля. Маеш сілу і адвагу, каб змерацца з праблемамі. Знаёмстваў менш, затое больш, немалых, грошай. Найлепш выедзь на пару дзён. Далей спрыяльная кан'юнктура, планета багацця пераносіцца ў сектар фінансаў, будзеш атрымліваць карысць ад рэалізаваных праектаў, прытым з вялікай колькасцю нулёў! Можаш стартаваць з новым мерапрыемствам, агорнеш хаос, будзеш у пару месяцаў аднаасова. Пазбудзешся «хвастоў» і канкурэнцыі!

**(23.11. — 22.12.)** Будзе цягнуць цябе да людзей. Аптымізм, жыццярадаснасць, агульная сімпатыя. Ад 8.11. пачнеш новы этап жыцця. Усё будзе прасцей. Дасі рады з парадкамі дома і іншымі. Цяжка засяродзіцца на працы, але не кідайся да шэфа! 7-11.11. сустрэнеш асобу, створаную для цябе. 7-14.11. апынешся на піку папулярнасці. Аж да 21.11. едзеш на энергетычным рэзерве, дык не перанапружвайся, адпачывай.

**(23.12. — 20.01.)** Старайся быць тактычны і ветлівы, не шукай усюды ворагаў. Шанцы ўпарадкавання асабістых і прафесійных спраў. У пары напруга, але і прыемныя хвіліны. 6-8.11. расскрэціш чыесьці скрытыя матывы. У выпадку канфлікту найлепш будзь нейтральным. Рашэнні ад 9.11., хай і цяжкія, пойдуць табе ў карысць. З 9.11. (да 13.11.) можаш учыніць штосьці вялікае і значнае.

**(21.01. — 19.02.)** 6-8.11. можа не хапіць табе сілы неабходнай для змагання з канкурэнцыяй. Але будзе пералом на лепшае. Добрая рука да інтарэсаў. 7-11.11. нават у старых пар жарсна! Дома цёпла і сямейна. На працы — прапановы, якіх не адкінуць, але папрасі дапамогі ў дэталёвых заданнях. Не пераборшчвай з фізкультурай.

**(20.02. — 21.03.)** Будзеш ведаць, чаго хочаш. Напрацуешся, але будзе ўзнагарода. 4-8.11. глыбокія мастацкія, духовыя перажыванні. З 9.11. (да 13.11.) адважышся ўсё паставіць на адну карту. Венера цяпер абыякавая. На працы не рвіся ўперад. Перамагай чорныя думкі.

Агата АРЛЯНСКАЯ

## Адгаданка

1. гмінны першастаяцель, 2. прылада для касьбы, 3. дзяржаўная мова Пакістана, 4. жыхар басейна Лены, 5. старадаўняя шляхецкая адзежына, у якой... туш, 6. доля, 7. вялікая паўднёваамерыканская змяя сямейства ўдаваў, 8. пчаліная сямейства, 9. непажаданая адтуліна ў вопратцы, 10. установа з акрабатамі, клоўнамі, дрэсіроўшчыкамі, 11. 2,54 см., 12. водгалас, 13. вязальная спіца, 14. частка тулава ад шыі да крыжа, 15. вадкасць са звараных на вадзе ягад.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка.

(ш)

| | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 1 | | | | | | | | | 2 |
| | 3 | 4 | | | | | 5 | | | | | | |
| | | 6 | | 7 | 8 | | 9 | | | 10 | 11 | | |
| | | | | | | | | | | | | 12 | |
| 13 | | | | | | | | 14 | 15 | | | | |

**Адказ на адгаданку з 41 нумара**

Вяз, гурыя, Драва, дыван, кілім, косць, лыч, мыла, Юта.

Рашэнне: **Малыя злачынствы адкрываюць дарогу вялікім**.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага.

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 300 egz.



■ Клаўдзія Ляўчук

# Кастапраў Сельвес ладзіў людзей

*— Нэ пудскакуй — бо як дам, то до костоправа повэзут!*

Такімі словамі гасілі імпэт перад заўзятай бойкай яшчэ ў канцы XX стагоддзя на Гайнаўшчыне. У народзе памяталі, што хірург-самавук складаў косці не толькі ў звычайных ахвяр катастроф. Ён ратаваў ад смерці збітых удзельнікаў сваяцкай ці сяброўскай дракі, якой не жадалі заносіць у міліцыйныя пратаколы і пракурорскія параграфы. І хоць народнага хірурга даўно ўжо не было ў жывых, яго легендарную асобу выклікалі ў знак перасцярогі і прымірэння.

Дапамагала!

Сёння ўжо немагчыма даказаць, каго дакладна прызывалі ў знак прымірэння мае падгайнаўскія аднавяскоўцы — ці славутага кастаправа з Вілюкоў ці з Занавінаў? Магчыма, іх слава злілася ў адну пушчанскую песню, якая мацавала веру ў самастойнасць і самавітасць людзей лесу, якім не заўсёды падабаліся парадкі вонкавага свету. Лекары-*кастапрaвы* дзейнічалі на прынцыпах падобных да шаптух і знахароў, таму тузэмцы даверялі ім больш, чым прафесійным хірургам і спецыялістам.

Верагодна, на славу легендарных лекараў паўплывала яшчэ блізкасць паміж іхнімі вёскамі. Да канца вайны Занавіны знаходзіліся ў Польшчы. І калі ўлічыць лясныя дарогі напрасткі, і адсутнасць мяжы, яны тры крокі ад Вілюкоў. Да таго распаложаны пры Гайнаўскай дарозе, па якой жыхары Падляшша раней дабіраліся ў Камянец.

— А да нашага Сельвеся з цэлага свету цягнулі, — скажуць з сантыментам апошнія жыхаркі Занавін. — Ажно з-за Гайнаўкі прыязджалі...

* * *

І зараз, калі мы ехалі ў Занавіны па старой Гайнаўскай дарозе ад боку Камянца, усё здавалася знаёмым і адначасова футурыстычным. З кожнага боку пазяхаў подых канчыны і людской смерці. У вочы калоў сум абязлюдзелых дамоў і пакінутыя сады, з парбынялым пераспелымі пладамі галлём. Вуліца ў Панасюках месцамі нампамінала зялёны тунэль, сплецены з крон прысядзібных дубоў, ясеняў, вязаў і ліп. У даўжэзных на кіламетр Чвірках, з шырокай вуліцай і задбанымі агародчыкамі, таксама дажывала ўжо некалькі ўдавіц. У канцы вёскі ўзнікла дылема — у які бок падацца, каб патрапіць у Занавіны? Непазначаная дарога разыходзілася ў два супрацьлеглыя бакі, ды кожная з іх напамінала неафіцыйную сцяжыну «па-за клунямі». Мы рашылі павярнуць у бок мяжы, на захад. Гэты «палявы» адрэзак Гайнаўскай дарогі вабіў нейкай абяцанкай. Хацелася сысці з машыны і басанож брысці па цёплым пяску, абсыпаным пераспелымі яблыкамі і грушкамі-дзічкамі з прыдарожных дрэў. Сярод маладняку, што бушаваў абапал шляху, рыжавелі шапкі пераспелых маслякоў...

Пасля вайны, калі Занавіны апынуліся па беларускім баку, Гайнаўская дарога, для людзей звонку, канчалася ля хаты кастаправа Сельвеся Ціленкевіча. Далей ужо не было патрэбы ехаць. Сваякі і сябры, што апынуліся па польскім баку, явіліся страчанымі і недасяжнымі, быццам іх перасялілі на асобны кантынент. Спынїўся таксама паток пацыентаў, якія прыходзілі за дапамогай з цэлага рэгіёна.

— І ўсё роўна дзень і ноч ехалі да яго людзі, — кажа суседка Люба Хмара, — але ўжо з аднаго, беларускага боку. І толькі па дарозе ў Чвіркі выстойвалі ў чарзе фурманкі. Часам іх было столькі, што не злічыць. І ўсе хваляваліся. Бо кастапраў быў чалавек з характарам! Калі нехта яму не спадабаўся, ён не хацеў лячыць.



■ Люба Хмара

Яго нельга было падкупіць грашыма.

* * *

Клаўдзія Ляўчук, 1934 года нараджэння, дажывае адна ў прасторнай драўлянай хаце. У выхадныя наведвае яе сын з Берасця. Прывозіць харчы і напаўняе вёдры і банкі вадой з калодзежа. Каб хапіла на цэлы тыдзень.

— Маё імя па бацюшку, — кажа. Успамін даваенных гадоў на міг асветліць сумнае аблічча жанчыны. Мова пра Клаўдзія Пушкарскага, які ў міжваенны час служыў на парафіі ў Белай. Пасля імя святара зраслося з Белавежай, дзе праслужыў больш за паўстагоддзя. У хаце спадарыні Клаўдзіі свет пушчанскіх людзей зноў здаецца свойскім, знаёмым і суцэльным. Жанчына з любоўю ўспамінае хроснага бацьку, мельніка Івана Вапу з Мацкевічоў. Пад Вялікдзень абдароўваў іх мукой на святочныя пірагі. І любіў развесяліць кампанію, іграў на гармоніку.

— Ад нас у Мацкевічы сем кіламетраў, — адзначае жанчына, — то мы праз лес у госці хадзілі...

Клаўдзія Ляўчук — пляменніца кастаправа Сельвеся Ціленкевіча. Ён нарадзіўся напрыканцы XIX стагоддзя. У часы Першай сусветнай вайны прыслугоўваў вайсковаму лекару. Ад яго навучыўся складаць перабітыя і паламаныя косці, спыняць кровацячэнні, дэзінфекаваць раны і нарывы. Пасля, калі вярнуўся ў родныя Занавіны, самастойна паскладаў шкілет дрывасеку, прыдушанаму пры рабоце паваленай елкай у лесе. Чалавек гас у вачах, паміраў пад адчайны плач дзяцей і жонкі. Ніхто не верыў у яго выратаванне. Тады Сельвесь Цілянкевіч пашкадаваў сям'ю. Ён наказаў закрыць дзверы, паставіў варту ля дзвярэй і амаль цэлы дзень складаў патоўчаныя ногі і пазваночнік дрывасека. І хоць першую аперацыю правёў у вялікай сакрэтнасці, яго слава вокамгненна разышлася па наваколлі. З часам набыў такую практыку і славу, якой зайздросцілі яму прафесіяналы:

— Калі ўжо лекары не давалі рады, — дадае суседка Люба Хмара, — то хворых забіралі з бальніцы і прывозілі да нашага Сельвеся. І ён ладзіў людзей.

* * *

Люба Хмара памятае часы, калі да кастаправа выстойвалі чэргі фурманак ад камянецкага боку Гайнаўскай дарогі. У Занавіны прыйшла замуж у 1951 годзе.

— А ён хрысціў майго мужа, — кажа 89-гадовая жанчына. — То мы дапамагалі сабе ў бядзе. Сельвесь Цілянкевіч не пайшоў у калгас. Хоць у яго былі залатыя рукі, жыў у бядзе. Не меў ні каня, ні воза. Сена для кароў дык у мяшку з поля прыносіў. А найгорш, — спыняе на момант успамін Люба Хмара, — дачка ў яго захварэла. Яна ела толькі хлеб і ваду. Памерла без пары, дзеўкай. Сын Коля таксама памёр у маладым узросце, не пакінуўшы па сабе патомства.

Люба да канца дапамагала дзецям Сельвеся Цілянкевіча. Да гэтага схіляла яе бязмежная ўдзячнасць і павага для народнага лекара:

— Ён шмат разоў ратаваў маю сям'ю, — кажа. — Раз мой чалавек паламаў ключыцу. Дзядзька яго «наладзіў» і кожны дзень прыходзіў даглядаць. Мяне таксама даглядаў, як пабіла рэбры. Бо ён не толькі складаў косці, шмараваў раны. У яго быў такі дар, што словам здымаў боль....

Люба Хмара кожны раз, калі прыгадвае імя легендарнага кастаправа, паўтарае:

*— Дай Божэ ёму Царство Небесное!*

Фота і тэкст
**Ганны КАНДРАЦЮК**

ISSN 0546-1960